# Голас Радзімы

№ 34 (2592)

27 жніўня 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

МАЙСТРЫ



**Уладзімір МАТРОСАЎ (на здымку) — галоўны мастак Віцебскага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Аднак яго ведаюць яшчэ і як таленавітага рэжысёра. Сярод найбольш прыкметных пастановак Матросава значацца "Песня пра зубра" М. Гусоўскага, "Багдановіч і час", "Евангелле ад Уладзіміра" і іншыя.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

**У 1997 ГОДЗЕ НА БЕЛАРУСІ СТВОРАНА НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СЕКЦЫЯ МІЖНАРОДНАГА САВЕТА ПА ДЗІЦЯЧАЙ КНІЗЕ**

## АСАБЛІВАЯ ЛІТАРАТУРА

Дзіця імкнецца да кнігі ў выглядзе казкі ўсёй сваёй душой. Яно прагне цудаў і мары. Калі чалавек у дзяцінстве чытае, хутчэй за ўсё ён будзе чытаць, калі стане дарослым. Дзіця — самы неабаронены чытач. Ні ад дрэнных кніг, ні ад іх адсутнасці наогул.

Кніжны бум канца 80-х — пачатку 90-х перажыла не толькі літаратура для дарослых, але і дзіцячая. Выдавалася вялікая колькасць самых розных кніг — і баевікоў на дзіцячы манер, і коміксаў, і казак-страшылак. Яркасць вокладкі не гарантавала больш-менш прыстойнага зместу і якасных ілюстрацый. Да дзіцячай кнігі падыходзілі як да бізнесу ў чыстым выглядзе. Пры гэтым забываліся, што кніга, а дзіцячая асабліва — элемент культуры, што яе ролю ў развіцці асобы, эстэтычным выхаванні цяжка пераацаніць.

У сённяшніх умовах, калі вельмі распаўсюджаная відэа-, тэле- і аўдыёінфармацыя, дзіцячай кнізе даводзіцца вытрымліваць асаблівую канкурэнцыю. Яна павінна несці ў сабе нешта такое, чаго няма ні ў адной іншай крыніцы інфармацыі. Яна павінна несці ў сабе вобразы, якіх няма ў іншых візуальных відах мастацтва. Такое магчыма толькі, калі, разумеючы душу, свет дзіцяці, да яе самой падыходзіць як да мастацтва. Дарэчы, гэта не толькі праблема нашай краіны. Па інфармацыі нямецкіх спецыялістаў, дзіцячая ілюстраваная кніга складае 24 працэнты ад абароту кніжнай прадукцыі ў свеце. Выданне 85 працэнтаў усіх дзіцячых кніг будуецца па аднолькавых прымітыўных эталонах, так званай схеме "дзетка". Гэты наіўны рэалізм нельга назваць сучасным кніжным мастацтвам.

На Беларусі ж ёсць сталыя традыцыі кнігавыдання, ёсць аўтары і мастакі. І выдаецца нямала кніг. Пры тым, што ў нас існуе практычна адно дзяржаўнае дзіцячае выдавецтва "Юнацтва" і каля 27 невялікіх прыватных выдавецтваў, якія рэальна выдаюць дзіцячую літаратуру. Летась дзіцячых кніг было выдадзена недзяржаўнымі выдавецтвамі 509 назваў тыражом 12 мільёнаў 650 тысяч экзэмпляраў. Дзяржаўныя выдавецтвы выдалі 153 назвы кніг тыражом 1 мільён 900 тысяч экзэмпляраў.

Для абмеркавання сённяшняга стану кнігавыдання для дзяцей наш карэспандэнт сустрэўся з прэзідэнтам нядаўна створанай Нацыянальнай секцыі Міжнароднага Савета па кнігах для моладзі (ІВВУ), кандыдатам сацыялагічных навук Святланай МАРОЗАВАЙ. Яна працуе таксама намеснікам дырэктара выдавецтва "Кавалер-Паблішэрс" па сувязях з грамадскасцю і знешнеэканамічных пытаннях. Першай просьбай да яе было расказаць пра Міжнародны Савет па кнігах для моладзі.

— Міжнародны Савет па кнігах для моладзі (ці дзіцячай кні-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ДАНЧЫК У ТАЛІНЕ

## МЫ ЯШЧЭ СУСТРЭНЕМСЯ



У пачатку чэрвеня на Эстонскім тэлебачанні адбыўся паказ тэлеперадачы "Як жывеш?". Тэма яе — інтэграцыя ў чужым асяроддзі, што з'яўляецца актуальнасцю і для беларусаў у Эстоніі. Галоўны герой тэлеперадачы — журналіст радыё "Свабода", спявак Багдан Андрусышын (Данчык), з якім вядзе гутарку аўтар перадачы ЭТ Галіна Вельман.

Данчык упершыню прыехаў у Талін па асабістаму запрашэнню старшыні Таварыства беларускай культуры Анатоля Лапышава і даў адзіны канцэрт.

— Калі запрашалі Данчыка, я не ўяўляў, што і пасля канцэрта, на якім ён выступіў, застанецца столькі матэрыялу, — гаворыць А. Лапышаў. — Перш за ўсё — гэта ўспаміны людзей, якія пабывалі на канцэрце. У іх словах увесь час гучыць надзея на новыя сустрэчы. І такая сустрэча адбылася: на Эстонскім тэлебачанні выйшаў фільм пра Данчыка.

Вельмі істотна для нас, беларусаў, якія жывуць у Эстоніі, што менавіта ў Таліне прайшоў фільм пра беларуса. Няхай гэта далёкі беларус, але ён нам вельмі блізкі. Фільм дапоўнены эстонскімі краявідамі, ён з эстонскімі субцітрамі, з перакладам, у якім гучыць беларуская мова, бо спачатку даюць Данчыку казаць, а пасля ідзе пераклад.

Я глядзеў гэты фільм як бы вачыма эстонскага гледача, і было вельмі цікава, што гэта за чалавек і адкуль ён, я ганарыўся нашым беларусам.

Галіна Вельман прыйшла на канцэрт, каб зняць кароценькі рэпартаж у выпуск навін і не змагла пайсці адтуль, засталася ў зале. Яе гэта захапіла. Яна пабудавала свой фільм і ўвогуле гутарку з Данчыкам не як з песеннай зоркай, а як з простым чалавекам. Гутарка пасуе з песнямі, якія спявае Данчык. Атрымаўся вельмі суцэльны фільм, прафесійна зроблены.

Данчык завітаў да нас у апошнія дні сакавіка мінулага года. І, як пералётная птушка, дакрануўся белым крылом сваёй творчасці да душаў і сэрцаў тых, хто прыйшоў на яго адзіны канцэрт. Ад песень ягоных, як ад першых веснавых промняў сонца, святлелі твары і на вачах з'яўляліся слёзы.

"Мой родны кут", "Беларусь — мая шыпшына", "Спадчына" — гэтыя песні камусьці нагадалі пра назаўсёды пакінутую Радзіму, пра родную вёску, пра бацькоўскую хату, якой даўно ўжо няма.

Пасля канцэрта людзі дзяліліся ўражаннямі.

УДО ХЭЛЬМЭ — эстонец, гісторык, краязнаўца: "З Данчыкавых песень я даведаўся аб Белай Русі больш, чым з усіх энцыклапедый, што прачытаў за сваё жыццё".

ГАЛІНА ВЕЛЬМАН, журналіст, рэдактар рускага канала Эстонскага тэлебачання: "За ўсё жыццё не чула і не бачыла нічога больш цудоўнага. Я не магла сабе ўявіць, што беларуская мова такая прыгожая".

Данчык ад'ехаў, але з намі засталіся яго песні і запіс нашай гутаркі. Мы сядзім на-

**(Заканчэнне на 5-й стар.)**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

## ЖЫВЕ МАЯ ПАТАПАЎКА!



Пры ўездзе ў маю родную вёску, у нейкай сотні метраў ад чыгуначнага пераезду, над асфальтаваным шляхам правісаюць нацягнутыя на металічныя слупкі, што зроблены ў выглядзе стылізаваных жытнёвых каласкоў, дзевяць выпіленых драўляных літар, якія складаюць слова ПАТАПАЎКА. Некалі, праводзячы мяне з дому на цягнік на Мінск, бацька кіўнуў: "Мая работа — і не без гонару дадаў: — Па тры рублі за кожную заплацілі..." На той час, калі ён атрымліваў у саўгаснай сталярцы 60 рублёў, а бохан хлеба

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*



10 жніўня Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг пабываў з рабочай паездкай у Барысаўскім раёне.

НА ЗДЫМКУ: у калгасе "Перадавік".

Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.

*ПАСЛАННЕ АД ГЕНЕРАЛЬНАГА САКРАТАРА ААН*

### ПАДЗЯКА КОФІ АНАНА ПРЭЗІДЭНТУ ЛУКАШЭНКУ

На імя Прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі паступіла пасланне ад Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Кофі Анана. Ён падзякаваў кіраўніку беларускай дзяржавы за падтрымку, аказаную ўрадам рэспублікі на Спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, прысвечанай барацьбе супраць незаконнага вырабу, збыту, попыту, абароту і распаўсюджвання наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў.

Як вядома, вясной гэтага года моладзь з усяго свету абмяркоўвала пытанні, якія датычаць прадухілення злоўжывання наркотыкамі, на форумах у Парыжы і Банфе (Канада).

Маладыя людзі выпрацавалі "Маладзёжную хартыю для XXI стагоддзя, свабоднага ад наркотыкаў", а таксама "Погляд з Банфы".

"Я разумею, што мы павінны падзяліць сур'ёзнасць іх намераў і не здацца. У сувязі з гэтым спадзяюся, што магу разлічваць на Ваша далейшае кіраўніцтва па забеспячэнню выканання плана дзеянняў, прынятага на Спецыяльнай сесіі", — гаворыцца ў пасланні Генеральнага сакратара ААН кіраўніку беларускай дзяржавы.

*БЕЛАРУСЬ — ІНДЫЯ*

### МОСТ СУПРАЦОЎНІЦТВА ПАБУДАВАНЫ

"За апошнія гады мы разам з Беларуссю пабудавалі мост супрацоўніцтва ў галіне эканомікі, навукі і культуры. Дзве краіны зблізіліся па многіх напрамках".

Пра гэта заявіла Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Індыі ў нашай краіне Мадху Бхадуры на прыёме, які прайшоў у Мінску з нагоды нацыянальнага свята гэтай краіны — Дня незалежнасці. Пасол падрэсліла, што сведчаннем дынамічнага развіцця двухбаковага супрацоўніцтва стаў візіт кіраўніка беларускай дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі ў Індыю, у час якога былі падпісаны важныя дакументы.

На прыём былі запрошаны прадстаўнікі замежнага дыпламатычнага корпуса, вучоныя і студэнты нашай рэспублікі, члены таварыства "Беларусь — Індыя".

*ПАЛІТЫКА*

### КОЛЬКІ Ў НАС ПАРТЫЙ

Інстытут сацыяльна-палітычных даследаванняў у ходзе чарговага этапу сацыялагічнага маніторынга вызначыў рэйтынг папулярнасці беларускіх палітычных партый. Першая "гарачая" дзесятка асноўных палітычных структур краіны такая:

1. Камуністычная партыя Беларусі — 8,5 працэнта.
2. Партыя жанчын "Надзея" — 7,2 працэнта.
3. Аграрная партыя — 6,9 працэнта.
4. Беларускі народны фронт — 4,2 працэнта.
5. Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці — 4,0 працэнта.
6. Партыя камуністаў Беларуская— 3,6 працэнта.
7. Беларуская сялянская партыя — 3,5 працэнта.
8. Партыя зялёных — 3,4 працэнта.

9—10. Партыя здаровага сэнсу — 3,0 працэнта

9—10. Беларуская народная партыя — 3,0 працэнта.

Як паказвае сацыялагічны аналіз, рэйтынг большасці партый нязухільна падае. Аб існаванні большасці з іх народ нават не падазрае. Людзі сёння чакаюць ад усіх гэтых партый не столькі прыгожых слоў, колькі хоць крупінку справы, грамадска карысных ініцыятыў.

*СТАТЫСТЫКА*

### У ЦІСКАХ ДЭМАГРАФІЧНАГА КРЫЗІСУ

Дэмаграфічная сітуацыя ў сталіцы па-ранейшаму застаецца трывожнай. На 1 ліпеня ў Мінску зарэгістравана 1 мільён 715 тысяч 600 чалавек. Гэта на тысячу сто чалавек менш, чым у пачатку года.

За мінулае паўгоддзе на свет з'явіліся 6 тысяч 729 маленькіх мінчан. 7 тысяч 440 жыхароў сталіцы памерлі. Праўда, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года колькасць народжаных павялічылася на 1,1 працэнта. Паводле слоў намесніка начальніка ўпраўлення па працы і занятасці насельніцтва Мінгарвыканкома Аляксея Багамольскага, адмоўным з'яўляецца і "механічны" прырост насельніцтва ў сталіцы. Са студзеня па чэрвень у Мінск прыбылі крыху больш чым 26 тысяч 700 чалавек, а выехалі — 27 тысяч.

*АХОВА ЗДАРОЎЯ*



Пры Магілёўскай абласной бальніцы функцыяніруе эндакрыналагічны цэнтр, які аказвае кансультацыйную і арганізацыйна-метадычную дапамогу лячэбна-прафілактычным установам вобласці. Тут маецца сучаснае дыягнастычнае абсталяванне, урачы-эндакрынолагі прайшлі спецыяльную падрыхтоўку на базе вядучых клінік рэспублікі. Хворыя, што знаходзяцца на лячэнні, наведваюць дзеючую пры цэнтры школу дыябету, дзе іх знаёмяць з метадамі самалячэння. У цэнтры наладжана штогадовае абследаванне шчытападобнай залозы, асабліва для тых, хто пацярпеў ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

НА ЗДЫМКУ: загадчык цэнтра Уладзімір СЕЛІВАНАЎ і ўрач прамянёвай дыягностыкі Сяргей МАКСІМАЎ абследуюць шчытападобную залозу.

Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.

*ПАМЯЦЬ*

### У КУРАПАТАХ УСТАНОВЯЦЬ ЯШЧЭ АДЗІН МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК

У кастрычніку мінулага года і сёлета ў маі ва ўрочышчы Курапаты зноў раскапалі чалавечыя чарапы, косці...

Ваенная пракуратура адкрыла справу. Даследаванні выявілі астанкі 417 і 225 чалавек. У Курапатах адбылося перазахаванне гэтых астанкаў. Працэдуру перазахавання ўзяло на сябе Бараўлянскае вытворчае прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі пры садзейнічанні прадстаўнікоў выканкома Мінскага раёна.

У хуткім часе на месцы гэтых пахаванняў будзе ўсталявана мемарыяльная дошка: "Брацкая магіла. Ахоўваецца дзяржавай".

*МАСТАЦТВА*

### ЛЯЛЬКІ Ў МАГІЛЁВЕ

Своеасаблівая захоўваюцца традыцыі лялечнага тэатральнага майстэрства ў Асіповічах. Ужо восем гадоў пры двух дзіцячых бібліятэках (гарадской і раённай) дзейнічаюць гурткі лялек. Школьнікі пад кіраўніцтвам бібліятэкараў не толькі самі майструюць лялек, але і арганізавалі невялікі лялечны тэатр. Сваю творчасць яны паказваюць равеснікам, дарослым, усім, каму цікавае гэта старадаўнае мастацтва.

Летнія канікулы прынеслі школьнікам жаданы адпачынак. Але яны рыхтуюцца да свайго першага конкурсу сярод лялечных калектываў дзіцячых і сельскіх бібліятэк Магілёўскай вобласці. Як сказала намеснік дырэктара Асіповіцкай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Валянціна Логвін, ініцыятарам конкурсу выступіла Магілёўская абласная аб'яднаная бібліятэка імя Леніна. У верасні ў Бабруйску пройдзе занальны адбор конкурсантаў. Асіповіцкі раён прадстаўляюць тры калектывы.

*РЭХА ВАЙНЫ*

### ЯНО ЯШЧЭ МОЦНАЕ

Пяць разоў нагадвала пра сябе апошняя вайна на Брэстчыне.

Снарады з часоў вайны былі знойдзены ў раёне Паўднёвага ваеннага гарадка Брэста ля Ковельскай шашы, на Камянецкай трасе тэрыторыі Брэсцкай крэпасці, на беразе Піны ў Пінску і ў пасёлку Садовы Пінскага раёна. Усюды добра папрацавалі сапёры, але што дзіўна — чым далей адыходзіць вайна, тым часцей даводзіцца сустракацца з ёю спецыялістам па размініраванню.

*КАЛГАС-КАМБІНАТ "КРЫНІЦА"*





Акрамя шасці зімніх цяпліц, у калгасе-камбінаце "Крыніца" Іванаўскага раёна на паўтара гектарах гародніна вырошчваецца пад плёнкай, а на 216 гектарах — у адкрытым грунце. Адсюль рэалізавана ўжо 400 тон памідораў, на чарзе — каля 8—10 тон салодкага перцу, 400 тон ранняй бульбы, а таксама морква, буракі, капуста, цыбуля. Усяго ў гэтым годзе ў гаспадарцы будзе прададзена прыкладна дзве з паловай тысячы тон гародніны.

НА ЗДЫМКАХ: калгасныя цяпліцы; цяплічніца Ала ПАШКЕВІЧ збірае ўраджай памідораў.

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

*ДА НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА*

### З ПРЫГОЖАЙ КНІЖКАЙ

Большасць беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак пойдзе ў гэтым годзе ў школу з шасці гадоў. Не ведаем, як дзеці і бацькі, а навукоўцы клапаціліся аб гэтым загадзя.

Самы галоўны падручнік "Уводзіны ў школьнае жыццё" перапрацаваны і выдадзены "Народнай асветай" нанава. Таму падарожжа да краіны ведаў абяцае быць цікавым і маляўнічым. Спецыялісты пастараліся, каб падрыхтоўка да сапраўднай вучобы ні для кога не стала залішнім цяжарам. Для дзяцей падрыхтаваны прыгожы дыдактычны матэрыял і рабочыя сшыткі, для настаўнікаў і нават бацькоў — дапаможнік па метадыцы.

Выдавецтва "Вышэйшая школа" таксама не забылася пра маленькіх і яшчэ ў мінулым годзе надрукавала сшыткі для дашкольнікаў і метадычныя матэрыялы для выхавальнікаў ці бацькоў па вывучэнні англійскай мовы.

### СЮРПРЫЗ ДЛЯ ШКОЛЬНІКА

Новыя вучнёўскія дзённікі адзінага ўзору ўводзяцца з гэтага года ў школах Беларусі. У адрозненне ад сваіх "субратаў" з бліжэйшага замежжа, наш дзённік выкананы па еўрастандарту, гэта значыць ён крыху вужэйшы, чым быў раней. На ўнутраным баку вокладкі нанесены адлюстраванні дзяржаўнага герба і флага Рэспублікі Беларусь. Вокладка выканана з выдатнай фінскай паперы. Унутраны змест дзённіка застаўся ранейшым, праўда, з адной, але кардынальнай розніцай — усе надпісы зроблены на беларускай мове.

*НА СТАНЦЫІ "БРЭСТ-ПАЎНОЧНЫ"*



Дзень і ноч у пастаянным рабочым рытме працуе тэрмінал на чыгуначнай станцыі "Брэст-Паўночны". Тут праводзіцца дагляд кантэйнераў і вагонаў, што ідуць у Беларусь і транзітам у краіны СНД і ў Заходнюю Еўропу. Многа мільярдаў рублёў вернута ў казну дзяржавы работнікамі тэрмінала, якія спыняюць усе спробы абысці таможны кодэкс і закон Рэспублікі Беларусь. Галоўныя парушэнні: недакладныя звесткі пра груз, лішкі грузаў, не той груз, што ўказаны ў дэкларацыі.

НА ЗДЫМКУ: кантэйнерная пляцоўка тэрмінала.

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

# ЖЫВЕ МАЯ ПАТАПАЎКА!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).







каштаваў 14 капеек, гэта і сапраўды былі немалыя грошы. Хаця наўрад, ці імі вымяраецца бацькаў гонар?!

Адкуль паходзіць назва Патапаўка, я, на жаль, не ведаю. Кажуць, даўно, калі на месцы сённяшняй вёскі былі адно што зацямрэчаныя лясы ды непраходныя балоты, сюды ўцяклі, ратуючыся ад жорсткага пана, браты Яўсей і Патап. Шукаючы месца пад будучае паселішча, разышліся. Колькі яны так блукалі паасобку, невядома, аднак калі Яўсей урэшце ўзбіўся на больш-менш прыгодны пагорачак, то адразу ж, як і дамаўляліся, пачаў клікаць брата: "Патапка-а-а, Патапка-а-а..." І хоць рэха далёка разносіла Яўсееў голас, брат так і не адгукнуўся. Згінуў, пэўна, недзе ў пражорлівай багне. І пасяліўся Яўсей сярод балот і лясоў адзін. А неўзабаве і яшчэ той-сёй прыбіўся да ягонага будана. Так і з'явілася людское паселішча, названае ў гонар Яўсеевага брата Патапка, якое стала потым Патапаўкай.

Быль гэта ці легенда, не ведаю. Можа, калі хто з маіх больш настырных землякоў і дакапаецца даісных каранёў назвы? Хацелася б, калі ў самога рукі не даходзяць...

А так мая родная вёска асабліва нічым адметным не вылучаецца. Бадай, такая ж, як і шмат іншых, што месцяцца ў межах Буда-Кашалёўшчыны — хіба што, можа, "абскакала" большасць з іх па памерах: пры маім нараджэнні звыш 800 двароў налічвала. Яе вуліцы і завулкі разбягаюцца ад цэнтра, дзе могілкі, нібыта галіны і галінкі ад ствала вялікага дрэва. Мусіць, каб узняцца ўгару на вертапёце — менавіта так бы яно і ўбачылася. "Ствол" жа гэтага разгалага "дрэва" лёг узбоч чыгункі (ці, хутчэй, яна каля яго). Далёка расцягнулася мая Патапаўка — то ж цягнік-дызель аж два прыпынкі робіць у вёсцы! Спачатку яны так і называліся: Патапаўка-1 і Патапаўка-2. Для сваіх, безумоўна, усё зразумела, а прыезджыя зазвычай блыталіся, з якога боку лічыць. Вось і перайменавалі "другую" Патапаўку ў Качанава.

Гісторыя вёскі, вядома ж, сягае ў пазарэвалюцыйны час, аднак большасцю сваёй усё ж часцей згадваюцца падзеі пасля 1917 года. Шмат перажыла мая Патапаўка: прайшла і праз раскулачванне, і праз сталіншчыну, і праз Айчынную вайну. Бацькавы ўспаміны пра апошнюю вайну (а калі тая пачалася, яму было 12 гадоў) у памяці засталі найбольш учэпіста. Пра яе нагадвае і помнік воіну-вызваліцелю ля былога сельскага клуба. Дарэчы, у 43-м, калі ішло наступленне, у баі, што разгарнуўся тут, палегла 634 воіны. Балючай згадкай пра вайну — і чырвоныя зорачкі на вясковых хатах, адкуль пайшлі на фронт і куды не вярнуліся мае землякі. 470 сваіх жыхароў ахвяравала Патапаўка на алтар агульнай Перамогі. Уяўляеце: калі б памяць кожнага з гэтых 1 104 загінуўшых воінаў ушанаваць хвілінай маўчання, мы б замоўклі на васемнаццаць з палоўвай гадзін!..

Дзеці і ўнукі — нашчадкі ратнай славы сваіх герайчных бацькоў і дзядоў — адбудавалі вёску, прымножылі яе дабрабыт. Сярод маіх землякоў — вучоныя і пісьменнікі, ваенныя і настаўнікі, урачы і юрысты, кіраўнікі розных рангаў і хлебаробы. Шкада толькі, што незайздросны лёс, які напаткаў нашы айчынныя вёскі, не абышоў і маю Патапаўку. З усіх сіл выпіналіся вяскоўцы, выпраўляючы сваіх сыноў і дачок далей ад нязтульных мехмайстэрань і непралазных ад гразі фермерскіх двароў да чысцейшай работы ў вабны горад. А тут яшчэ і Чарнобыль сваім чорным крылом зачапіў. І таму ўсё самотней становіцца ў вёсцы без звонкіх дзіцячых галасоў. Сёння тут, як і ва ўсёй рэспубліцы, больш памірае, чым нараджаецца.

І ўсё ж жыве мая Патапаўка, цяжка, з надрывам, але жыве. І моладзь застаецца ў ёй, і тойсёй са з'ехаўшых, паспытаўшы гарадскога хлеба, вяртаецца назад, да бацькоўскіх сялібаў. І працягваецца радавод Зэкавых, Кірыленкаў, Гарэлікавых, Шутавых, Янчанкаў... І ў школу бягуць мае юныя землякі, і ў Буда-Кашалёўскі аграрэхнічны каледж, што ў трох кіламетрах ад вёскі, паступаюць...

Жыве мая Патапаўка, жыве! Няхай доўга жыве! Вечна!

**Анатоль ЗЭКАЎ.**

**P. S. З фотакарэспандэнтам Віктарам СТАВЕРАМ мы знарок не выбіралі спецыяльных аб'ектаў для здымкаў. Можна было б сфатаграфаваць двухпавярховы сельскі Дом культуры, мясцовую школу, новыя забудовы, знакамітых людзей... Мы ж проста прайшлі па вясковых вуліцах.**

# АСАБЛІВАЯ ЛІТАРАТУРА

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

зе) — грамадская, некамерцыйная арганізацыя — быў створаны ў 1953 годзе ў Цюрыху. Міжнародны Савет па дзіцячай кнізе абвясціў сваёй асноўнай задачай каардынацыю работ па выданню якасных дзіцячых кніг, па іх прапагандзе, даступнасці добрых кніг для шырокага чытача. ІВВУ аб'ядноўвае каля 80 дзяржаў, 13 тысяч індывідуальных членаў, больш 1 000 арганізацый. Міжнародны Савет па дзіцячай кнізе падтрымліваюць ЮНЕСКА, Міжнародная асацыяцыя выдаўцоў, бібліятэкараў, Міжнародны кніжны камітэт, найбуйнейшыя кніжныя канцэрны, манархі розных краін.

ІВВУ стваралася, калі ў заходніх краінах, у СССР выдавалася шмат дзіцячай літаратуры. Але ж у краінах Афрыкі, Лацінскай Амерыкі дзіцячых кніг амаль не было. ІВВУ дапамагала паправіць такое становішча. Пасля развалу СССР, некаторых іншых краін Усходняй Еўропы гэтая частка свету стала полем дзейнасці ІВВУ. Першыя нацыянальныя секцыі арганізацыі з'явіліся ў Літве, Латвіі, Эстоніі. У ІВВУ разумеюць, што ў краінах з пераходнай эканомікай ёсць рызыка згубіць нацыянальную кніжную культуру. Яе захаванне, падтрымка нацыянальных аўтараў, мастакоў, выдаўцоў — вось што галоўнае ў яе дзейнасці. ІВВУ праводзіць работу па каапераванню краін у сферы дзіцячага кнігавыдання. Гэта значыць наладжвае сумеснае выданне лепшых кніг у 5—6 краінах адначасова невялікімі тыражамі на кожнай мове, што дазваляе знізіць сабекошт выдання.

— Хто ўваходзіць у Міжнародны Савет па кнігах для моладзі?

— У яго ўваходзяць выдаўцы, прадаўцы дзіцячых кніг, бібліятэкары, настаўнікі, паліграфісты, пісьменнікі, мастакі — усе, чые інтарэсы звязаны з удасканальваннем кніжнай прадукцыі для моладзі.

Членам савета можа стаць як пэўная асоба, так і нацыянальная секцыя. Дарэчы, Савецкі Саюз меў сваю нацыянальную секцыю ў савеце. Узначальваў яе вядомы дзіцячы пісьменнік Сяргей Міхалкоў, які з'яўляецца ганаровым прэзідэнтам Расійскай секцыі ІВВУ і зараз. Але ж, як правіла, гэтая секцыя прадстаўляла інтарэсы Расіі. Нашы беларускія пісьменнікі, мастакі практычна не мелі шансаў на вылучэнне, на атрыманне ўзнагарод на міжнародных конкурсах дзіцячай кнігі ІВВУ. Пасля развалу Саюза Беларусь, зразумела, не ўваходзіла ў Міжнародны Савет па дзіцячай кнізе. Тут не было інфармацыі пра дзейнасць ІВВУ. Адзінай магчымасцю прадставіць беларускую кнігу ў свеце быў удзел у кірмашах, выставах. Дзіцячыя кнігі нашага выдавецтва былі адзначаны на Балонскай кніжнай выставе. На міжнародным узроўні было адзначана, што на Беларусі выдаюцца якасныя дзіцячыя кнігі. У 1996 годзе выдавецтву "Кавалер-Паблішэрс" было прапанавана ўвайсці ў Міжнародны Савет па дзіцячай кнізе ў якасці індывідуальнага члена.

Мы ж, у сваю чаргу, расказалі пра дзейнасць Міжнароднага Савета па дзіцячай кнізе кнігавыдаўцам, кнігараспаўсюджвальнікам на Беларусі. Людзі зацікавіліся, многія ўпершыню адкрылі для сябе гэтую паважаную ва ўсім свеце арганізацыю. Нацыянальная секцыя Міжнароднага Савета па дзіцячай кнізе існуе на Беларусі з 1997 года.

— Што дае нашай краіне, беларускай кнізе ўваход у гэтую арганізацыю?

— Я думаю, па-першае, выхад у свеце. Ведаеце, калі наша выдавецтва ў 1996 годзе ездзіла са сваімі кнігамі ў Італію на Балонскі кніжны кірмаш, пра Беларусь у свеце кнігавыдання ніхто нават і не ведаў. Мы паказвалі свае кнігі, арыгіналы ілюстрацый, кнігі іншых беларускіх выдавецтваў. Потым я рабіла даклад у Браціславе на семінары ІВВУ—ЮНЕСКА па дзіцячай кнізе. І калі людзі, што працуюць у галіне кнігавыдання шмат гадоў, пачулі пра колькасць дзіцячай літаратуры, пра шматгадовыя традыцыі нацыянальнай кніжнай культуры Беларусі, яны былі ўражаны. Мала хто чуў тады наогул пра нашу краіну, тым больш мала хто ведаў пра наша кнігавыданне. А калі мы перадалі кнігі беларускіх выдаўцоў у музей дзіцячай кнігі, людзі зноў дзівіліся на нашы выданні. Бо, нягледзячы на даволі нізкі ўзровень паліграфічнага выканання, кнігі нашы самабытныя і вельмі адрозніваюцца ад засілля масавай культуры, што часта пануе ў свеце кніг.

Уваход у Міжнародны Савет па дзіцячай кнізе — гэта шлях да прызнання ў свеце нашых дзіцячых аўтараў, мастакоў.

Гэтая арганізацыя раз у два гады праводзіць конкурс па выяўленні найбольш значных для сусветнай культуры дзіцячых кніг. Тут ацэньваецца кніга ў цэлым, асобна дзіцячы аўтар, перакладчык, мастак. Гэта так званая малая Нобелеўская прэмія ў галіне дзіцячай літаратуры, прэмія Андэрсена.

Таксама існуе ганаровы ліст Міжнароднага Савета па дзіцячай кнізе, куды па рашэнні Нацыянальнай секцыі заносяцца імёны дзіцячых пісьменнікаў, ілюстратараў. Гэты ліст з'яўляецца інфармацыяй для вялікай колькасці навукова-даследчых інстытутаў па літаратуры для дзяцей, для выдаўцоў, бібліятэк. Зразумела, што ўвайсці ў такі ліст прэстыжна для кожнага мастака і пісьменніка. Яго будуць ведаць у свеце кнігавыдання, яго будуць перакладаць.

— Хто на Беларусі ўваходзіць у Нацыянальную секцыю Міжнароднага Савета па дзіцячай кнізе?

— Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў, цэнтралізаваная сістэма бібліятэк Мінска. Яны зацікаўлены ў абмене вопытам з аналагічнымі арганізацыямі ў свеце, у папулярызацыі беларускай якаснай кнігапрадукцыі. І хоць удзел у міжнародных выставах вельмі дарагі, мы зацікаўлены, каб нас там бачылі. Пакуль беларуская секцыя не мае сваіх грошай у адрозненне ад аналагічных секцый у іншых краінах. Там такія арганізацыі карыстаюцца вялікай павагай. Яны маюць дзяржаўную датацыю, знаходзяць спонсараў, якія ахвяруюць сродкі на дзіцячую кнігу і яе папулярызацыю. Але ж нешта мы робім. Так, мы адправілі ў Польшчу кнігу Ірыны Казінцовай (яна была выдадзена на спонсарскія грошы тыражом усяго 500 экзэмпляраў) на конкурс "Кніга для дзяцей і кніга пра дзяцей" на атрыманне літаратурнага прыза імя Януша Корчака. Конкурс быў арганізаваны па лініі Польскай секцыі Міжнароднага Савета па дзіцячай кнізе. А праілюстравала кнігу (яна называецца "Кіскі, сабачкі і іншыя") дзевяцігадовая беларуская дзяўчынка Дзіяна Прыхадоўская, якой зараз ужо 14 гадоў. Кніга гэта цудоўная. Ілюстрацыі дзіўныя і пазіцячы чыстыя. Мы чакаем вынікаў конкурсу. Таксама Нацыянальная секцыя адправіла (што давалі нашы выдавецтвы, што набывалася ў крамах) лепшыя беларускія кнігі ў фонды бібліятэк Малдовы, Украіны, Албаніі, Германіі, Міжнародны інстытут вывучэння дзіцячай літаратуры.

— Раскажыце, калі ласка, пра конкурс "Мастак і кніга", які вы праводзіце.

— Мы праводзім гэты конкурс разам з Беларускай асацыяцыяй кнігавыдаўцоў, кнігараспаўсюджвальнікаў, Беларускім саюзам мастакоў і выдавецтвамі "Кавалер-Паблішэрс" і "АСАР" сёлета ўжо другі раз. Гэта рэспубліканская мастацкая выстава-конкурс мела вялікі рэзананс у грамадстве, асабліва сярод мастакоў. Ім не хапае прызнання. Вельмі важнай падзеяй было тое, што мы адправілі 37 ілюстрацый шасці беларускіх мастакоў на конкурс ілюстрацый ІВВУ ў Браціславе, і ўсе яны трапілі ў экспазіцыю выставы па выніках

(Заканчэнне на 5-й стар.).

БЕЛАРУСЬ – ЧЛЕН МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ ПА АХОВЕ ПРАМЫСЛОВАЙ УЛАСНАСЦІ

# ПАСЛЯ КАНГРЭСА Ў РЫО-ДЭ-ЖАНЕЙРА

Летам гэтага года ў Рыо-дэ-Жанейра адбыўся трыццаць сёмы кангрэс Міжнароднай асацыяцыі па ахове прамысловай уласнасці (AIPPI), на якім Беларусь была прынята ў члены гэтай уплывовай арганізацыі. Наша краіна атрымала магчымасць карыстацца сусветным вопытам у галіне аховы прамысловай і інтэлектуальнай уласнасці.

Міжнародная асацыяцыя па ахове прамысловай уласнасці AIPPI ў мінулым годзе адзначыла свой стогадовы юбілей. Яна аб'ядноўвае прафесіяналаў, што працуюць у галіне абароны прамысловай уласнасці — як юрыстаў, патэнтных павераных, так і непасрэдна ўладальнікаў прамысловай уласнасці, словам, усіх, хто так ці інакш звязаны з работай па абароне інтэлектуальнай і прамысловай уласнасці. Мэтай AIPPI з'яўляецца садзейнічанне разуменню неабходнасці міжнароднай абароны прамысловай і іншай інтэлектуальнай уласнасці, у тым ліку вынаходстваў, карысных мадэлей, прамысловых узораў, таварных знакаў і іншых форм аховы прамысловай уласнасці, а таксама спыненне несумленнай канкурэнцыі і заахвочванне далейшага развіцця абароны прамысловай уласнасці. Аб маштабах гэтай арганізацыі гаворыць той факт, што ў яе ўваходзіць 7 739 членаў з 108 краін, а на апошнім, трыццаць сёмым кангрэсе ў Рыо-дэ-Жанейра прысутнічала каля трох тысяч чалавек.

Свае кангрэсы асацыяцыя праводзіць раз у тры гады, як правіла, у розных краінах. Папярэдні праходзіў у 1995 годзе ў Манрэалі, наступны ў 2001 годзе запланаваны ў Аўстраліі, кангрэс 2004 года — у Жэневе.

Да прыёму Беларусі ў асацыяцыю ў нашай краіне было шэсць незалежных членаў асацыяцыі, але па рэгламенту прыём магчымы толькі ў рамках нацыянальнай групы, куды павінна ўваходзіць не менш дзесяці членаў, якія знаходзяцца ў поўнай згодзе паміж сабой і дзейнічаюць разам. Для кансультацый па арганізацыі беларускай нацыянальнай групы прыязджаў прэзідэнт нарвежскай нацыянальнай групы, ганаровы член арганізацыі, старшыня камітэта па развіццю і расшырэнню сферы дзейнасці AIPPI Я. Фельгярут. У праўленне Нацыянальнай групы Беларусі ўвайшлі тры віцэ-прэзідэнты — дырэктар ААА "ІНТЭЛС" Ніна Васільева, патэнтны паверáны "ПАГ" Сяргей Вінаградаў і прэзідэнт Фонду развіцця вынаходніцкай дзейнасці Леанід Груздзіловіч. У склад Нацыянальнай групы таксама ўвайшлі старшыня Белдзяржпатэнта Валерый Кудашаў, прадстаўнікі фірм — актыўных патэнтаўладальнікаў і значная частка патэнтных павераных Беларусі. Плануецца, што ў наступным годзе ў Беларусі будзе праведзена міжнародная канферэнцыя па ахове інтэлектуальнай і прамысловай уласнасці. Сваё жаданне ўдзельнічаць у ёй выказалі спецыялісты з Расіі, Прыбалтыкі, Украіны, Польшчы і іншых краін з падобнымі заканадаўчымі праблемамі. Будуць разгледжаны такія актуальныя пытанні, як абарона камп'ютэрных праграм і біятэхналогій. Ужо цяпер разглядаюцца праблемы абароны прамысловай і інтэлектуальнай уласнасці ў XXI стагоддзі. Сёння ў японскім патэнтным ведамстве толькі 3 працэнты заявак падаюцца на папяровых носьбітах... Тым не менш, як паказвае вопыт, гэта не намнога аблягчае працу японскага патэнтнага ведамства, бо працэдура экспертызы заявак там займае каля 7 гадоў.

Беларусь — удзельніца большасці асноўных міжнародных канвенцый па абароне прамысловай уласнасці, яна ўдзельнічае ў рабоце Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці, у Парыжскай канвенцыі па абароне прамысловай уласнасці, не так даўно падпісала Міжнародную канвенцыю ў галіне абароны аўтарскіх і сумежных правоў.

Цікавае развіццё атрымаў у Беларусі эканамічны бок абароны прамысловай і інтэлектуальнай уласнасці. Несумненна, што прадукты інтэлектуальнай працы павінны быць рэальна ацэнены пэўнымі эквівалентамі, якія называюцца нематэрыяльнымі актывамі. Цяпер у краіне распрацоўваюцца методыкі па ацэнцы такіх нематэрыяльных актываў, бо калі яны не ўлічаны, гэта скажае рэальную карціну развіцця эканомікі краіны і перашкаджае стварэнню ўмоў для інвесціравання прагрэсіўных тэхналогій. Добры вопыт у гэтай галіне назапашаны ў Лідзе, дзе ўжо чатыры прадпрыемствы працуюць па новай сістэме ўліку нематэрыяльных актываў і яшчэ чатыры ў бліжэйшы час павінны перайсці да работы ў такой сістэме. Нядаўна там праходзіў семінар па першаму вопыту работы ў гэтай галіне. Ёсць такі вопыт і ў Мінску.

Членства ў AIPPI дасць магчымасць Беларусі бесперашкодна звяртацца ў асацыяцыю і атрымліваць рэкамендацыі і кансультацыі па ўсіх пытаннях. У рамках арганізацыі вядзецца аналіз міжнароднага заканадаўства, абагульняецца вопыт работы ўсіх краін, выяўляюцца заканамернасці і распрацоўваюцца рэкамендацыі, якімі змогуць карыстацца ўсе краіны — члены асацыяцыі, а з гэтага часу — і Беларусь.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## АМЕРЫКАНЦЫ Ў «АЛІМПІІ»



**Рабіць больш разнастайным дзіцячы адпачынак у аздараўленчым лагеры "Алімпія" пад Магілёвам дапамагаюць 14 амерыканцаў-добраахвотнікаў з розных штатаў, у ліку якіх можна знайсці простую хатнюю гаспадыню і прафесара універсітэта. Яны прапаноўваюць дзецям розныя занняткі, гуляюць з імі. А ўвогуле знаходжанне іншаземцаў на Магілёўшчыне ўваходзіць у праграму дзейнасці гуманітарнай арганізацыі "Рукі дапамогі", якой кіруе Стывен Дзю Пуі.**

**НА ЗДЫМКУ: Стывен Дзю ПУІ з дзецьмі з "Алімпіі".**

**Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.**

## ПАДАРОЖЖА Ў МІНУЛАЕ

**Антон ПАДДУБІЧ**

# З МАІХ ВАНДРОВАК ПА ВЯЛЕЙШЧЫНЕ

Но-о-о! — чую нехта паганяе ззаду каня. Абарачваюся і бачу, што едзе нейкі сівенькі дзядок. Астанаўліваюся і надчэкваю. Што, бацька, вязеш? — пытаюся.

— Соль, — адказвае дзед. — Быў ў Вялейцы і купіў мех солі. Садзіся, крыху падвязу.

— Дзякую, скарыстаю твайго, бацька, дазволу. Колькі ж тут пудоў у гэтым мяшку? — пытаюся.

— Шэсьць. Будзе чым саліць бульбу, але бяда, што сялета блізу няма бульбы, — сьмяецца стары.

— Ну, дык капусту й буракі можна будзе прысаліць, — падказваю я.

— І капусты, й буракоў гэтаксама блізу няма. Такое праклятае летца, што ўсё пагінула.

— Дык нашто было купляць аж шэсьць пудоў солі? — пытаюся.

— Бо танная. Гэта ж соль "конская". На складзе прыказвалі мне, каб у страву яе ня сыпаў, а даваў каню, карове і раілі нават даваць сьвіньням і курам. Але дзе там — з'ямо й самі. Чалавек не скаціна — з'есьць усё, — жартуе дзядок. — А скуль сам будзеш і адкуль йдзеш? Мо" з адседкі?

— Не, — адказваю, — пакуль што з "адседкай" йшчэ не пазнаёміўся. Іду з Вялейкі, жыву ж я ў Б.

— Я пытаюся аб адседцы, бо нашых тамка ёсьць шмат. Усё за сьвіней й сабак. Бяда цяперка з гэтымі сьвіньнямі й сабакамі. Сарваўся з прывязі сабака — пратакол. Выпаўзла сьвіньня на вуліцу — пратакол. А пасьля і плаці, дый яшчэ пасядзі ў халоднай. А нябось не пытаюцца ў гаспадара, ці мае ён што есьці і засеяць чым поле. Гэта іх не цікавіць. Надоечы прыяжджаў да нас "бічун" — гэты, што сьцягвае падаткі. Аблупіў і абдзёр людцаў да апошняе сарочкі. Куфары й шафы валіў тапаром, а наш солтыс — каб яму на тым сьвеце чэрві скуру спалілі — падскоўваў і дапамагаў. Няма чаго прадаць на падаткі, скуль узяць грошы, а тут усё плаці і плаці. Падавалі нашыя прашэньні, але нічога з гэтага. Ведама, што мужыка ніхто не пашкадуе й за яго ніхто не ўступіцца. Няма праўды. Народ гінець, а паны сьмяюцца. Што ім!

— Ну, дзякуй, бацька, што падвёз. Мне трэба ўлева.

— З Богам! — адказвае дзядок. Но-о-о! Каб цябе!.. падганяе стары свайго коніка. Сьпяшаецца, каб хутчэй прывясьці "конскую" соль, якой ужо даўно чакае сям'я.

Ідучы далей, бачу пры дарозе нешта завешанае дзяругай. Воддаль нейкая жанчына выбіраець бульбу. Што гэта за буда, — думаю, але раптам з гэтае "буды" разлёгся дзіцячы плач. Дзіця на полі ў такі холад і золь — гэта ж недарэчнасьць.

— Памагай Бог! А чаму гэта маці забралі ў гэткі холад дзіця на поле? Яно ж акалець можыць.

— Што ж зробіш, — адказвае жанчына, — калі няма пры кім аставіць у хаце. "Майго" забралі ў адседку, а мы толькі з "ім" удваёчку.

— Дык чаму "ён", — пытаюся, — не прасіўся, каб адбыць кару пасьля закончаньня палявых работ?

— Прасіўся, але нічога з гэтага. Прышоў паліцыянт і пагнаў у Вялейку, — адказвае жанчына. — Вот і гаруй цяпер з малым. Балазе, што спакойнае дзіця.

— Папрасілі б суседзяў, — раю.

— Дзе там. Кожны сваей работы маець па горла.

— Аставайцеся здаровы!

— Шчасьліва, з Богам!

Ну, — думаю, — калі гэты грамадзянін пад дзяругай не захварэець, дык будзе доўга жыць, а калісьці ягоная старэнькая маці прыпомніць яму, як у сьлётную восень, выбіраючы бульбу, не адзін раз паплакала. Толькі ці падзякуе гэты грамадзянін сваёй старой маці за апеку?..

Падходжу да вёскі Л. Здалёку чуваць музыка. Што гэта такое? Няўжо ж вясельле? Ня можыць быць, бо ў суботу чамусьці шлюбоў не даюць. Увышоўшы ў Л. і ўбачыўшы па-сьвяточнаму апранутых хлапцоў й дзяўчат, пытаюся, якое ў іх сьвята. Вечарына, — адказваюць. У нас, — кажу, — робяць вечарыны ў сьвяточныя дні, а вы чамусьці гуляеце ў буднія. Бачыш, дзядзька, — кажыць мне адзін хлапец, — да нас прыехаў тралецкі начальнік і загадаў, каб мы, сабраўшы дзяўчат, наладзілі вечарыну.

— А ці можна мне зайсьціся ў хату і пабачыць, як вы скачаце?

— Чаму ж не, толькі заплаці, дзядзька, 20 грошаў.

— А гэта ж чаму? — пытаюся.

— На музыканта, — адказваюць.

Заплаціўшы 20 гр., увахоаджу ў хату. Цесна тут й душна. Скачуць, аж сцены дрыжаць. Прысеўшы на лаве каля нейкага маладзіка, пытаюся, ці яны — стральцы (польская ваенізаваная маладзёжная арганізацыя. — **Я.К.**) — толькі й займаюцца скокамі.

— Ды часта, — адказвае, — скачыма. А што ж тутака болей рабіць?

Пасядзеўшы йшчэ крыху ў "сьвятліцы", выхаджу, бо ўжо было не рана, а да таго ж трэ" было мне зайсьціся да майго прыяцеля ў Л. і не хацелася яго па ночы будзіць.

— Пахвалёны ў хату! Як маешься, дзядзька Пранук?

— Памаленьку. Садзіся, будзь ласкаў. Адкуль Бог нясець?

— Быў у Вялейцы, у Язэпа, зайшоўся па дарозе цяпер й да цябе. Зайшоўся быў у вашую "сьвятліцу" і бачыў, як ваша моладзь марнуець абутак.

— А ці шмат было смуроду ў гэтае "сьвятліцы"? Бо пад дзень будзе там такі чад ад дэнатуркі, што можа зьбіць з ног цьвярозага чалавека. Эй, браток, ня варта аб іх й гаварыць, — махнуў Пранук рукою. — Ну, але папросіма Марылю, каб яна дала нам пад'есьці. Мабыць, прагаладаўся, а на галодны жывот гаварыць ня зручна. Як намурцуемась кашы з малаком, тагды пойдзе гладка.

Есьці хацелася страшэнна. З ахвотай і прыемнасьцю "намурцаваўся" я малака з кашай. Ніколі, здаецца, у жыцьці нічога смачнейшага ня еў. Павячэраўшы, расказаў Прануку аб сваей гутарцы з Язэпам, і як Язэп жаліўся на нядолю нашага сяляніна. Пранук уважліва слухаў, а калі я кончыў, ускочыўшы з лавы, крыкнуў: — Язэп! Ты, браток, не жартуй з гэтага Язэпа, бо ён ня толькі разумны й добры чалавек, але ён сьвяты. Калі ён жаліўся, дык дзеля таго, што шмат перацярпеў. Жаліцца ж наагул ён не любіць. Гэта чалавек незвычайны. Разумеецца, ён не расказваў табе, як раздаець бедным апошнюю бульбу й жыта. Дзеліцца ўсім, што маець. Дый жонку маець спагадлівую. Ні ў чым яму не пярэчыць. А які, браток, ён патрыёт, як любіць сваю Бацькаўшчыну.

— Што Язэп патрыёт і добры чалавек, я даўно ведаю, але толькі ад цябе даведваюся, што сваю дабрату гэтак далёка пашырыў, дзелячыся апошнім. У цяперашнія часы гэта сапраўды сьвяты чалавек. Цяперка раскажы мне, дзядзька Пранук, аб вашых баптыстах. Казалі мне, што й ты маеш з імі нейкую лучнасьць.

— Аб баптыстах — нячыстых раскажыць табе лепей мая жонка Марыля. Бо калі я й маю — як ты кажаш — нейкую лучнасьць з баптыстамі, дык праз жонку, а яна ж у іх адыгрывае немалаважную ролю. У гэты час увайшла цётка Марыля. Зрабілася мне сорамна, што гэтак нязручна распачаў гутарку аб баптыстах.

— Ці ж гэта праўда, цётка, што трэ" да вас зварочвацца, калі йдзе гутарка аб баптыстах? Мо"- дзядзька Пранук — як заўсёды — жартуець.

— Дый не, ён кажыць праўду. Я сапраўды належу да іх, да гэтых "нячыстых" і праклятых людзей — як іх называюць. Я ня ведаю, як вы адносіцеся да нашае "веры". Мо" й вы, як і шмат другіх, верыце, што мы на сваіх маленьнях займаемась нячыстымі рачамі і заместа, каб хваліць Імя Яго — займаемась блудам і распустай. Мы ж стараемася жыць, як прыказвае сьв. Эвангелія.

— Ну, добра, але чаму вы не прыймаеце ў сваю сэкту Пранука? — прабаваў я жартаваць.

— А таму, — адказвае са сьмехам "сястра" Марыля, — што Пранук сьсець люльку, ня пільны да малітвы, і больш майго старога цікавяць рэчы сьвецкія, чымся духоўныя. Што я належу да баптыстаў — гэта праўда, і я не саромлюся гэтага, бо благога ў гэтым нічога ня бачу. Я была хрысьціянка і ёю астануся, але хадзіць у царкву ня маю ахвоты. Усё тамака для мяне чужое.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 32, 33.**

# МЫ ЯШЧЭ СУСТРЭНЕМСЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

супраць адзін аднаго ў студыі Эстонскага радыё і размаўляем.

— Данчык, мы вельмі рады сустрэчы з вамі на эстонскай зямлі. Упершыню мы пачулі вашы песні ў 1993 годзе, калі нам з Беларускага радыё даслалі матэрыял: Віталь Сямашка вёў з вамі гутарку. Потым мы пачулі вашы песні на 1-м з'ездзе беларусаў свету. Вы спявалі дуэтам разам з Леанідам Барткевічам — першым салістам ансамбля "Песняры". Гэты дуэт выклікаў захапленне. А чаму ён распаўся?

— Мы з Лёням спявалі толькі тады, як я быў у Беларусі ў 1989 годзе.

А як распаўся дуэт? Тады Лёня жыў у Беларусі, я — у Амерыцы. Цяпер так выйшла, што ён у Амерыцы, а я ў Еўропе. Толькі тыя два ці тры тыдні, што я быў у Беларусі, мы мелі нагоду спяваць. Калі мне было 17 ці 18 гадоў і я першы раз пачуў "Песняроў", то проста закахаўся ў Лёнеў голас, ва ўсе песні, што ён спяваў. Пазней я нават у Мінску на сцэне казаў, што было маёй марай спяваць з ім.

*— Многія з тых, хто нарадзіўся і вырас у Беларусі, у тым ліку і мы, не чулі тых песень, якія вы спяваеце. А як вы іх збіралі, жывучы ў Амерыцы?*

— Пачалося, відаць, з таго, што я наогул пачаў спяваць. Яшчэ дзіцем меў вельмі высокі голас. Мая мама казала, што заўсёды баялася, як зменіцца голас, — я страчу яго, бо ў мяне сапраўднае сапрана было. Спачатку спяваў розныя амерыканскія песні, а беларускімі зацікавіўся менавіта з "Песняроў". Нехта тут гаварыў, як "Песняры" зрабілі вельмі вялікі ўплыў на эстонцаў. На мяне таксама. Пачуўшы іхнія песні, пачаў іх спяваць. Аднойчы на нейкай плёнцы пачуў "Беларусачку". Якраз у гэты час прыехалі ў Нью-Йорк "Песняры", выступалі на Брадвеі. Яны ад мяне навучыліся спяваць "Беларусачку". І казалі: "Адкуль ты ўзяў гэтую песню?" — "Гэта ж вашая, савецкая песня!" — адказаў я.

Але асноўны мой рэпертуар быў песняроўскі. А потым пачалі мне розныя іншыя кампазітары прысылаць свае песні, браў з газет беларускіх песні і ноты. Я на піяніна сабе іграў іх сваім спосабам, сваім стылем. Напрыклад, песня "Мы яшчэ сустрэнемся" — адна з апошніх. Яе напісала Валянціна Сярых, ёсць такі кампазітар у Беларусі. Яна казала: "Ты ведаеш, што я яе зусім інакш напісала, але ты яе зрабіў па-свойму". Першы раз як пачула, ёй зусім не спадабаліся той тэмп і ўсё іншае, а цяпер яна нават не ўспрымае яе такой, як сама напісала.

*— Вы самі робіце аранжыроўку песень?*

— Часам. Калі я не чую песню ў выкананні нейкага спевака ці гурту, пабачу яе на паперы, то гэта мабыць найлепш. Тады раблю па-свойму. Песню "Вы шуміце, бярозы" раней не чуў ніколі і заспяваў па-свойму. А потым пачуў, што нейкі беларускі гурт спявае абсалютна інакш.

*— Гэта "Сябры" спявалі, песня на словы Ніла Гілевіча.*

— Так, "Сябры". Яны неяк весела спявалі, і Ніл Гілевіч мне казаў, што якраз так яму падабалася. Але я люблю лірычныя песні, дык таму я лірыцызую, відаць, бальшыню песень, нават калі яны маюць быць вясёлымі.

*— Вы акампаніруеце сабе на гітары, фартэпіяна ці яшчэ на нейкіх інструментах?*

— Толькі на гітары. Я вучыўся 10 гадоў іграць на піяніна, але гэта вельмі даўно было. І калі неяк сеў за інструмент, дык пальцы нават не рухаюцца, нібы спаралізаваныя. Як не іграеш доўга, то траціш тэхніку. А на гітары ўсё вельмі проста: асноўныя акорды ведаеш, то амаль усе песні можна выконваць.

*— А ці ёсць новыя песні ў вашым рэпертуары?*

— Так, ёсць. Я ўжо спяваў на канцэрце тут, у Таліне: "Не кувай ты, шэрая зязюля" на верш Багдановіча. Вельмі сумная песня. Потым "Беларусь — мая шыпшына", якую я ніколі не спяваў раней. Мушу сказаць, што я не прафесійны спявак. Гэта не мая кар'ера, і я ніколі не зарабляў грошай спевамі, бо не меў многа часу для гэтага. Я не маю магчымасці развіваць голас і талент, бо я працую, і гэта цяжка. Я прыходжу з працы а 8-й ці 9-й гадзіне вечара. А спяваць таксама нялёгка.

*— Але ў Мінску створаны фанклуб у ваш гонар. Як вы ставіцеся да сваіх прыхільнікаў?*

— Я вельмі ўдзячны, што яны ёсць. Але я думаю, у гэтым фанклубе не столькі прыхільнікі нейкай асобы, чалавека, колькі беларушчыны, гэта ўвасабленне думкі, ідэі. Я так лічу. Мне смешна, калі ў мяне аўтографа нехта пытаецца.

*— Вы выступілі перад беларускімі гледачамі і слухачамі ў Таліне. Ці спадабаліся вам людзі, якія прыйшлі на канцэрт?*

— Вельмі спадабаліся. Праўда, я гледачоў не бачыў, бо асвятленне было надзвычай яркае. А я люблю, калі спяваю, кантактаваць з публікай, бачыць твары. І тады такая дынаміка паўстае паміж артыстам і публікай. Але я іх пабачыў у канцы вечара і пераканаўся, што людзі вельмі задаволеныя, прыхільныя да мяне. Гэта заўсёды вельмі прыемна.

*— Дык кім вы сябе больш адчуваеце — спеваком ці журналістам?*

— Відаць, спеваком. Хоць гэта не мая кар'ера, але я хацеў бы, каб яна была такой. Не магу сказаць, што заўсёды хацеў быць журналістам. Нешта пытаць, да нечага дакопвацца — якраз супраць маёй натуры. Часам людзі спыняюцца, калі бачаць катастрофу. Чалавечай натуры ўласціва спыніцца, паглядзець, даведацца. Я мушу сказаць, што ў мяне нават гэтага няма, журналіст якраз павінен мець такую цікаўнасць: што, дзе, як. Мяне ў журналістыку ўзялі, таму што я пісаць магу добра і англійская мова ў мяне была заўсёды добрая. Агульныя веды ёсць.

Трэба было нейкую прафесію выбіраць. А спеваком быць — так гэта я б і сёння, відаць, жыў з бацькамі, бо я не мог бы зарабляць на хлеб.

*— Чаму вы вырашылі працаваць на радыё "Свабода", ці не сумуеце па Амерыцы?*

— На радыё "Свабода" я пачаў працаваць 5—6 гадоў таму назад, калі працаваў у Нью-Йорку ў камерцыйнай кампаніі. Я быў там начальнік аддзела кадраў, меў адміністрацыйную працу. А за два кварталы ад маёй працы была нью-йоркская сядзіба радыё "Свабода". Там якраз адышоў адзін супрацоўнік, мне пазванілі. І запрасілі, бо ведалі, што я і беларускую, і ўкраінскую мову ведаю, і англійскую. Мяне пераканалі, што для мяне гэта вельмі добрая праца, а ім патрэбны такі чалавек з журналісцкай адукацыяй. Я тады падумаў, што можа і добра. Але для працы спатрэбілася, каб я не ў Нью-Йорку працаваў, а пераязджаў у Еўропу. Для мяне гэта была не толькі змена кар'еры, але змена жыцця — пераехаць у іншую краіну, дзе абсалютна не ведаеш мовы, не ведаеш, як сказаць нават "я" па-нямецку. А цяпер мы пераехалі з Мюнхена ў Прагу.

Ясна, што я сумую па Амерыцы, але мне вельмі падабаецца і Прага. Кожны раз, калі прыязджаю назад у Амерыку, у мяне такое пачуццё палёгкі, чую амерыканскую мову, якая адрозніваецца ад англійскай.

Я размаўляў з украінцамі нашымі, і яны так смешна часам кажуць, што цяжка на эміграцыі. І я вельмі часта цяпер паўжартам гавару, уздыхаючы: "Цяжка на эміграцыі".

*— Але вы цяпер бліжэй да Беларусі і часцей маеце магчымасць там бываць. Што вас больш за ўсё ўражвае ў краіне?*

— Я быў тры разы ў Беларусі. Першы раз у 1989 годзе. Тады пазнаёміўся са сваім дзедам, бацькам маёй мамы, з цёткамі, з многімі цудоўнымі людзьмі, якія да сёння застаюцца знаёмымі і сябрамі. Уражанне было тады цудоўнае! Мае канцэрты адбыліся з поспехам. У мяне быў шок ад таго, што людзі мяне чакалі, мае песні былі вядомыя. Я абсалютна не спадзяваўся, што гэтыя канцэрты зарганізуюць, бо я ехаў да Лявона Барткевіча і Вольгі Корбут проста з прыватным візітам.

Наступны раз, праз чатыры гады, у 1993 годзе, я паехаў на 75-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка. І таксама ўсё было ўрачыста. Я тады не спяваў, бо перад тым шмат гадоў не спяваў. Я проста выступіў як прадстаўнік амерыканскай дыяспары і прачытаў верш Сяргея Палуяна. А гэтым разам, вы сабе ўяўляеце, як гэта цяжка нават падумаць, што толькі тры гады прайшло пасля 75-х угодкаў, а пра 78-я ўгодкі, дык на афіцыйным узроўні ніхто нават не падумаў. Можа мы ўсе вельмі пастарэлі, і я пастарэў, але неяк адчуваецца, што не той энтузіязм.

*— Асоба, якая любіць сваю Радзіму, шануе гісторыю, культуру, мову, чамусьці завецца нацыялістам (у горшым сэнсе). А які сэнс вы ўкладваеце ў гэтае слова?*

— Вельмі цікавае пытанне, бо нацыяналіст для мяне не адмоўнае паняцце. У Амерыцы гэтае слова ніколі не мела нейкага адмоўнага значэння, а ў былым Савецкім Саюзе нацыяналіст — нешта падобнае на фашыст. Помню, я паехаў у Італію, можа тры гады таму назад, і там пазнаёміўся з расейцамі. Я пачаў гаварыць, што я не расеец, а напаўукраінец, напаўбеларус. І гаварыў, што Беларусь павінна быць Беларуссю, што наша культура адметная. Як яны на мяне глядзелі! І адзін кажа: "Дык вы — нацыяналіст!" Я адказаў: "Так!" І тады я зразумеў, што гэта **нешта**... Для мяне нацыяналіст — гэта проста нармальны чалавек, які любіць сябе, а калі сябе любіш, дык любіш і сваіх бацькоў, і сваю краіну, і ўсё, што тычыцца цябе самога.

*— Данчык, вы ўпершыню ў Эстоніі і крыху паглядзелі Талін. Што вам тут спадабалася, з якім горадам можна параўнаць Талін?*

— Мне спадабаўся Талін, вельмі прыгожы старажытны цэнтр. Але ў памяці застануцца беларусы і беларускі Талін. Для мяне кожны горад і кожная краіна не месца, не нейкая фізічная рэч, вуліца, узгорак, рака, а найперш людзі. І таму для мяне ў Таліне самае галоўнае людзі, гэты вечар, на якім мяне цёпла спаткалі. Там, дзе беларусы, заўсёды, дзе я ні быў, адчуваў сябе дома.

А калі ехалі ў машыне па новаму Таліну, мая цётка кажа: "Ну што ён табе нагадвае?" Я, нават не думаючы, сказаў: "Мінск!" А стары Талін зусім адрозніваецца ад новага, і ў старым горадзе вуліцы можа трошкі падобныя на пражскія. Я люблю Прагу, яна вельмі прыгожая.

*— А дзе, акрамя Эстоніі, вы ўжо спатыкаліся з беларускімі суполкамі і як вас там сустракалі?*

— Я думаю, такая суполка, дзе вельмі свядомыя, моцныя арганізацыі беларусаў і беларускай моладзі, у Беластоку. Гэта адно з першых месцаў, дзе я быў у 1981 годзе. То была мая першая паездка ў Еўропу і першая сядзіба беларусаў у Еўропе, бо тады я не мог у Беларусь ездзіць, візы мне не давалі. І ў Літву ў 1981 годзе хацеў, да Вільні паехаць, бо так блізка быў да яе ў Беластоку. І таксама былі вялікія складанасці, каб нават прыватна паехаць. Але пазней я быў у Вільні, у Амерыцы быў у Каліфорніі. Ясна, што ўсюды беларусаў мала. Не ведаю, чаму гэта так. Можа, асімілююцца, ці што.

*— Калі вы бываеце на радзіме сваіх бацькоў, я мяркую, вы лічыце Беларусь і сваёй радзімай. Ці не здзіўляюцца людзі, што вы — малады чалавек, які нарадзіўся ў Амерыцы і пражыў там доўгія гады, лепш ведаеце беларускую мову, чым тыя, хто жыве ў Беларусі?*

— Так, я думаю, што ў гэтым усім было зацікаўленне да мяне як спевака. Я сам разумею, што ў мяне прыемны голас (але я не маю вялікага голасу ці шырокага дыяпазону), а было ў тым зацікаўленне, што я амерыканец, народжаны амерыканец, прыехаў у Беларусь і па-беларуску гавару, і па-беларуску спяваю. І тады, у 1989 годзе, колькі лістоў пасля я атрымаў. Людзі, якія не гаварылі на гэтай мове, пачалі гаварыць і цяпер ўжываюць выключна беларускую мову дзеля мяне, дзеля песні, дзеля мастацтва. Мастацтва, песня, музыка могуць часам зрабіць больш, чымсьці словы і палітыка.

Якраз, як у 1993 годзе рабілі са мной інтэрв'ю на Беларускім радыё, пазваніў нейкі чалавек (гэта ў прамым эфіры было), здаецца, рускамоўны. І ён казаў: "Вы там на радыё "Свабода" працуеце. Тое, што вы пішаце, гэта ўсё добра, але ваша адна песня робіць куды больш, чым гэта ўся балбатня".

*— Так, той чалавек казаў праўду, бо песні сапраўды маюць уплыў і тут на нашых беларусаў. І мне вельмі прыемна было размаўляць з вамі на беларускай мове. Я спадзяюся, што гэта не апошняя наша гутарка, што вы яшчэ да нас прыедзеце, і мы зноў атрымаем задавальненне ад вашых канцэртаў.*

— Мы яшчэ сустрэнемся!

**Інтэрв'ю запісала Вольга ГАЛАВАШКІНА-КРАМАРЭНКА.**

г. Талін.

# АСАБЛІВАЯ ЛІТАРАТУРА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

конкурсу. Заўважу, што апошні раз беларускія мастакі ўдзельнічалі ў гэтым конкурсе гадоў 10 таму.

Ведаеце, нават у студэнтаў на Захадзе больш магчымасцяў ездзіць паказваць свае працы, чым у нашых славутых майстроў. А па-за сусветным працэсам у кнігавыданні існаваць цяжка. Ад уключанасці ў яго залежыць і ўзровень майстэрства, і творчы рост. Таму я вельмі вітаю дзейнасць такіх беларускіх выдавецтваў, як "АСАР", "МЕТ", "Сказ" за іх зварот да творчай студэнцкай моладзі. Выдавецтвы прапанавалі свае праекты, далі заказы. І ў выніку ў свеце кнігавыдання з'явіліся новыя цікавыя імёны.

— На ваш погляд, адносіны да дзіцячай кнігі змяніліся з цягам часу?

— Я думаю, што і дзяржаўныя, і недзяржаўныя выдавецтвы зараз ставяцца да зместу і да афармлення дзіцячай кнігі больш сур'ёзна, чым раней.

— Але ж на паліцах кніжных магазінаў можна ўбачыць часам такія няякасныя кнігі...

— Магазін для таго і існуе, каб там было з чаго выбіраць. Там павінна быць усё. І кнігі, якія хуценька робяцца на камп'ютэры, і коміксы. Яны танныя. Але на густ дзіцяці павінны ўплываць і кнігі якасныя як па зместу, так і па афармленню.

— Мне здаецца, што выдаваць сёння "некамерцыйную" дзіцячую кнігу, для афармлення якой запрошаны вядомы мастак, пры гэтым рабіць якасную вокладку, тытульны ліст, рамку з арнаментам на кожнай старонцы вельмі дарага, а таму нявыгадна.

— Так. Часта дзіцячыя кнігі прыносяць малы прыбытак. У нашага выдавецтва "Кавалер-Паблішэрс" ёсць вопыт выдання кнігі, якая амаль не прынесла прыбытку. Так, у 1996 годзе мы выдалі кнігу Толкіна "Хобіт", якая, дарэчы, на рэспубліканскім конкурсе "Мастацтва кнігі" была прызнана лепшай беларускай дзіцячай кнігай. Яна была ў цвёрдым пераплёце з высокамастацкімі ілюстрацыямі Мікалая Байрачнага. Частка з іх, дарэчы, увайшла ў энцыклапедыю ілюстрацый да твораў пісьменніка ("Каралеўствы Толкіна"), якая выйшла ў Англіі. Ведаеце, па ўсім свеце выдавецтвы, каб мець прыбыткі, атрымліваюць сродкі ад 5 камерцыйных выданняў, дзеля выдання адной кнігі на высокім мастацкім узроўні.

Што тычыцца нашага выдавецтва "Кавалер-Паблішэрс", то ў нас ёсць прынцып — выдаваць толькі прыгожыя ва ўсіх адносінах дзіцячыя кнігі. Нездарма ж наша эмблема — гэта прыгажун матылёк, які так і называецца — Кавалер. Стварэнне прыгожых, якасных кніг акрамя ўсяго іншага неабходна для самарэалізацыі, самазадавальнення. Бо нічога няма больш прыемнага, чым радасць дзіцяці, якое гартае прыгожыя старонкі цудоўнай кнігі казак.

**Алена СПАСЮК.**

*АБ ЛЁСЕ «БЕЛАРУСКАГА КНІГАЗБОРУ»*

# У БУДУЧЫНІ БАЧУ РОСКВІТ КУЛЬТУРЫ

**Нядаўна на паліцах кнігарань з'явіўся чарговы том беспрэцэдэнтнай — 200-томнай кніжнай серыі "Беларускі кнігазбор" — "Філаматы і філарэты". Кніга прысвечана выдатнаму сыну беларускай зямлі Адаму Міцкевічу, 200-годдзе якога па рашэнні ЮНЕСКА ў гэтым годзе будзе адзначаць уся сусветная грамадскасць. Склаў кнігу, пераклаў польскамоўныя творы пісьменнікаў-рамантыкаў Беларусі, напісаў аб іх кароткія нарысы вядомы паэт, кандыдат гістарычных навук, галоўны рэдактар "Беларускага кнігазбору" Кастусь ЦВІРКА.**

**Кастусь Цвірка — з пакалення тых, хто прыйшоў у літаратуру ў 60-я гады. Ён аўтар многіх паэтычных зборнікаў, нарысаў і эсэ аб літаратуры, сабраных у кнізе "Той курган векавечны", "Лісце забытых алеяў", манаграфіі "Слова пра Сыракомлю".**

**Сёння галоўнай сваёй справай паэт лічыць выданне тамоў распрацаванага ім "Беларускага кнігазбору".**

*— Як у вас узнікла ідэя выдавецкай дзейнасці?*

— У выніку вывучэння нашай шматмоўнай літаратурнай спадчыны тысячагадовай пісьменнасці Беларусі, у асноўным невядомай яшчэ чытачу. А гэта значыць, што мы не ведаем яшчэ па-сапраўднаму сваёй гісторыі. Узяць, напрыклад, старажытны перыяд беларускай літаратуры. Пра яго мы ведаем вельмі і вельмі мала. А там жа — карані ўсёй нашай літаратуры. Як вядома, прыкладна на паўстагоддзя раней за іншых усходніх славян асвоілі кнігадрукаванне на сваёй роднай мове. З Беларусі ішло тады святло асветы на ўсход. Таму выданне нашай культурнай спадчыны не можа не зацікавіць і нашых суседзяў — рускіх, украінцаў, літоўцаў. Якраз у нашай старадаўняй літаратуры яны могуць адшукаць вытокі і сваіх літаратур. Інакш кажучы, выданне "Беларускага кнігазбору" — гэта значная культурная падзея як для беларусаў, так і для народаў усяго свету.

*— Як вам удалося пачаць рэалізацыю гэтага праекта?*

— З задавальненнем адказваю: удалося таму, што мы сустрэлі разуменне выключнай важнасці нашага пачынання як з боку грамадскасці, так і дзяржаўных структур.

Праўда, сёння пытанне аб фінансаванні "Беларускага кнігазбору" ўскладнілася, бо ў дзяржавы не хапае сродкаў на падтрымку нашага выдання. Мы вельмі спадзяемся на дапамогу недзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, якія разумеюць важнасць культуры ў духоўным аздараўленні грамадства. У гэтай сувязі заклікаем усіх беларусаў (у тым ліку і за межамі Беларусі) прыняць самы непасрэдны ўдзел у вяртанні нашай найбагацейшай літаратурнай спадчыны.

*— А што плануецца выдаць у бліжэйшы час у "Беларускім кнігазборы"?*

— Творы нашых беларускіх пісьменнікаў Кузьмы Чорнага, Паўлюка Труса, Алеся Салаўя (паэта-эмігранта), Алеся Гаруна, Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага, Аляксандра Ельскага, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава.

*— Як вы лічыце, які пераклад лепшы: дакладны, няхай і не зусім паэтычны, ці вольны, у якім праяўляецца і індывідуальнасць перакладчыка, і яго паэтычны стыль?*

— Лічу, што паэтычны твор трэба перакладаць так, каб не загубіць саму паэзію. Перакладаць даслоўна — гэта рабіць празаічны падрадкоўнік. Ён цікавы толькі вучонаму-даследчыку ці перакладчыку, які не ведае мовы арыгінала, але не чытачу. Для чытача трэба перадаць паэтычны твор моваю паэзіі. Існуе некалькі перакладаў "Пана Тадэвуша" Міцкевіча на беларускую мову — дзеяча беларускага Адраджэння Браніслава Тарашкевіча, паэтаў Пятра Бітэля і Язэпа Семяжона. Аддаючы даніну павагі Браніславу Тарашкевічу і Пятру Бітэлю, якія здзейснілі сапраўдны подзвіг, узяўшыся за пераклад шэдэўра сусветнай літаратуры на турэмных нарах, я ўсё ж аддаю перавагу перакладу Язэпа Семяжона.

*— Якім вы бачыце будучыню беларускай нацыянальнай культуры?*

— У будучыні я бачу росквіт беларускай культуры. Раней, ва ўсе перыяды нашай трагічнай гісторыі, ёй многае перашкаджала. З развіццём дэмакратыі (а гэта працэс непазбежны) будуць створаны самыя спрыяльныя ўмовы для яе развіцця.

**Кацярына НІКІШЫНА.**
*("Аргументы і факты ў Беларусі").*

# ВЕЎ РЭЙ МІРОВІЧ ЕЎСЦІГНЕЙ

Пра такіх людзей звычайна кажуць: таленавіты ва ўсіх адносінах. А ён ім і быў — Еўсцігней Міровіч, сын селяніна з колішняй Віцебскай губерні Афінагена Дунаева, які воляй лёсу ў пошуках лепшага жыцця апынуўся ў Пецярбургу. Пасля сканчэння пачатковай школы і Самсонаўскага рэальнага вучылішча Саша Дунаеў (псеўданім Міровіч, з якім увойдзе ў гісторыю беларускага тэатральнага мастацтва, выбера пазней) вучыўся ў школе малявання, што працавала пры Акадэміі мастацтваў, пасляхова здаў выпускныя экзамены. Але ў гэты час ужо не столькі маляваннем захапляўся, колькі тэатрам. Апошняя акалічнасць і вызначыла яго далейшы шлях: паступіў на двухгадовыя тэатральныя курсы імя Ф. Волкава, а з 1900 года пачаў працаваць у Адміралцейскім, а потым у Кацярынінскім тэатрах.

Аднак як яркая творчая індывідуальнасць Е. Міровіч сфарміраваўся на зямлі бацькоў, якая неўзабаве яму стала роднай і для развіцця культуры якой ён зрабіў вельмі шмат. Сустрэча Е. Міровіча з Беларуссю адбылася ў 1919 годзе, калі ў складзе трупы Ліцейнага тэатра ён пабываў на гастролях у Віцебску, Гомелі, Мінску. У Мінску і застаўся. У тым жа 1919 годзе стаў тут акцёрам і рэжысёрам гарнізоннага тэатра. Крыху пазней працаваў у Тэатры рэвалюцыйнай сатыры, рускім тэатры "Шануар". Нарэшце перайшоў у БДТ-1, мастацкім кіраўніком якога з'яўляўся ў 1921—1931 гадах.

Е. Міровіч шмат пісаў для тэатра. Першы поспех да яго прыйшоў яшчэ ў 1915 годзе, калі п'еса "Вова прыстасаваўся" абышла амаль усе прафесійныя і аматарскія тэатры царскай Расіі, ставілася таксама і ў Мінску. Аднак сапраўдную вядомасць Е. Міровічу-драматургу прынеслі п'есы "Машэка", "Кат і сын", "Каваль-ваявода". Яму належыць першынство ў стварэнні беларускай гістарычнай драмы, якой стала п'еса "Кастусь Каліноўскі".

У 1932 годзе Е. Міровіч пераехаў у Гомель, узначаліў мясцовы тэатр рабочай моладзі. У 1937—1940 гадах быў мастацкім кіраўніком Тэатра юнага гледача БССР. З 1941 па 1945 год зноў быў рэжысёрам купалаўскага тэатра. З 1945 года — мастацкі кіраўнік і загадчык кафедры акцёрскага майстэрства Беларускага тэатральнага інстытута. Памёр 16 лютага 1952 года.

## ПІСЬМЫ М. ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА ДА МАКСІМА ТАНКА

# «ПРЫНОШУ РАДАСЦЬ ІНШЫМ...»

*Прага, 27.9.1963.*

Дарагі Максіме!

Кожная добрая вестка з Радзімы мяне радуе, Тваё ж пісьмо абрадавала мяне яшчэ мацней, тым болей, што я, ведаючы, як Ты заняты, не чакаў яго. Шчыра дзякую! Пішаш аб непакоі, з якім сустракаеш у пазнейшыя гады дзень нараджэння. Як мне гэта знаёма! Але паэт можа пісаць (тварыць) покуль жыве, нават калі ён не мае добрага здароўя. Горш, браце, у спевака. Жывеш, расцеш, развіваешся духова і якраз тады, калі хацеў бы і мог бы сказаць (спяваць) найбольш, вакальны інструмэнт і "падвядзе", а калі не ён, дык агульны стан здароўя. Праўда, я не магу моцна наракаць, бо ўсё яшчэ спяваю. Прыношу радасць іншым і навучыўся радавацца чужой радасці. Гэта дае мне многа прыгожых хвілін. Але як доўга гэта можа трываць (прадаўжацца)? Жыву чацвёрты год на сёмую дзесятку. З семярых дзяцей (столькі нас было ў маткі, — бацьку зусім не памятаю) астаўся адзін. Шкадую, што не змог "размножыцца". Можа, дзеці мае змаглі б зрабіць больш, чым гэта ўдалося мне. Але гэта, як кажуць, мімаходам. Вернемся да Тваёго пісьма. Вершы Твае, за якія шчыра дзякую, вельмі мне спадабаліся: і думкі-малюнкі (вобразы), і музыка-мова. Не дзіўлюся, што шмат хто на Беларусі яшчэ любіць сваю мову. (Памятаеш, у Польшчы нашу мову называлі мужыцкаю?!.) Першы верш "Кажуць людзі..." ужо нават навучыўся на памяць, і калі спаткаемся, то прадэкламую яго, а, можа, нават і заспяваю. А спаткацца вельмі хачу. Хачу заглянуць і на Тваю радзіму. Кажуць, што хутка можна будзе з аднае сацыялістычнае дзяржавы паехаць у другую без асаблівых фармальнасцяў. Вось гэта будзе вялікае дасягненне! Не можаш сабе ўявіць, як на апошнім канцэрце ў Мінску мне хацелася, хоць на пару дзён, астацца, пабыць з Вамі, пагаварыць, не адчуваючы вялікае адказнасці (ответственности) выступлення. Бо, калі я мушу (маю) спяваць, я, звычайна, ні на хвіліну не магу аб гэтым забыць і бываю для блізкіх і малацікавы і малапрыемны. Баюся, што такім я быў і ў Цябе на абедзе, аб якім як так рад успамінаю. І ўсё хацеў аб гэтым напісаць Любові Андрэеўне, каб не злавалася на мяне. Паганая ў мяне натура: здароўя мала, а заспяваць хачу як найлепей. І заўсёды стараюся, хоць ніколі не ўдаецца заспяваць так, як хачу. Бывае мне ад гэтага сумна (нават пасля вялікага поспеху). І таму Твае "сумнаватыя" вершы вельмі добра падыходзяць да майго настрою. Твая праца, браток, не загіне: Ты "памятник воздвиг себе нерукотворный...", а ад мае астанецца "рожкі ды ножкі". Хочацца перадаць каму-небудзь свой вопыт, свае дасягненні ў мастацтве (хоць і скромныя), і дзеля гэтага даю лекцыі спеву. Многа каму памог. Але гэта ўсё не тое. Трэба трапіць на талент, а ён не часта сустракаецца.

Моцна мяне радуе, што з сябрамі ўспамінаеце мяне добрым словам. Праўду кажучы, я ў думках (асабліва ў бяссоныя ночы) больш з Вамі, чым з тымі, хто блізка мяне. Хацелася б заспяваць Вам так проста, па дамашняму "без фраку", ведаючы, што слухаюць толькі сябры, перад якімі можна адкрыць усю душу, дзеля якіх "трэба няспынна ісці да зары". У надзеі, што гэта збудзецца, шлю Табе з сям'ёй, Рыгору Раманавічу і ўсім тым, хто ўспамінае мяне добрым словам, сардэчныя прывітанні.

З удзячнасцю абдымаю Цябе.

Твой Міхась Забэйда.

**P. S.** Ноты перапісваю. Як кончу, прышлю.

**М. З.**

*Прага, 30.4.1964.*

Дарагі Максіме!

Дагэтуль не адказаў на Тваё мілае і, як заўсёды, цікавае пісьмо, бо спадзяваўся, што хутка зноў заспяваю на Радзіме. Цяпер бачу, што памыляўся і да падарожжа рыхтаваўся надарма, бо ніхто аб гэтым нічога не піша. Сумна!.. Значыць, і грампласцінак новых не будзе.

З Твайго пісьма відаць, як мала Ты маеш часу на творчую працу. Шкада. Ці ж не мог бы даклады рабіць нехта іншы?

Пасылаю Табе апошні артыкул аб маёй працы. Напісаў яго пражскі навуковец, кампазытар і крытык доктар Р. Фікрле. Калі хочаш і можаш, выкарыстай у друку. І яшчэ, пасылаю кнігу аб найлепшых мастаках Чэхаславакіі. На старонцы 287 і 465 знойдзеш пару цікавых радкоў і аба мне.

Гэтым разам не пішу Табе многа, каб не забіраць Твайго часу на чытанне. Канчаю найлепшым Першамайскім пажаданнем і прывітаннем Табе, дарагі паэт, Тваёй сям'і і нашым сябрам. Мо яшчэ калі ўгледзімся.

Твой **М. Забэйда.**

*Прага, 25.11.1965.*

Дарагі Максіме!

Дзякуй за вестку аб сабе. І я шкадую, што мы размінуліся. Трывожыць мяне, што і Ты мусіш палыкаць пілюлькі. Я без іх не абыходжуся ніколі, але Ты ж маладзейшы. Спадзяюся, што ўжо выздаравеў і жадных пілюлек не патрабуеш.

Прыемна чытаць Тваю ацэнку маёй працы на Беласточчыне. Нялёгка мне там было. З-за холаду ледзь-ледзь вытрымаў. Памагалі сардэчнасць арганізатараў і слухачоў. Радавала і тое, што там, дзе перад вайной нашы песні забараняліся, там мне за іх дзякавалі нават ад ураду.

Ад урадоўца чуў і такія словы: "Трэба арганізаваць курсы літэратурнай беларускай мовы..." Аб маіх выступленнях гаварылася, што гэта толькі пачатак тае працы, якую трэба весці далей... (Але гэта я чуў і ў Мінску!)

Шкада, што чалавек не можа жыць столькі, колькі патрабуе... Наспяваў у Варшаве 11 беларускіх народных песень на доўгаграючую плітку. Што гэта была за праца, браток! Аркестр быў зусім не прыгатаваны, і я кожную песню з-за аркестра мусіў 5,7 і нават 10 раз паўтараць. Да таго, яшчэ быў прастуджаны. Дык урэшце на хустачцы, у якую кашляў, убачыў кроў. Калі б гэта не былі нашы песні, ніколі б не згадзіўся на такую працу.

Дзякую за "Полымя" № 10 з Тваімі вершамі і за зборнік "Мой хлеб насущный". Пераклады мне падабаюцца. Радуе і тое, што і тыраж расце. Хацелася б, каб ён рос яшчэ больш.

Пакуль што бывай здароў, дарагі Максіме!

Прывітанне сям'і і сябрам.

Твой **Міхась Забэйда.**

*Прага, 8.8.1966.*

Дарагі Максіме!

Вельмі парадавала мяне вестка аб палепшанні Тваёго здароўя. Шкада толькі, што зноў навалілася на Цябе працы больш, як трэба. І ўсё ж, дарагі дружа, мусіш памятаць, што без здароўя і праца не пойдзе.

Я ўсё яшчэ трымаюся і нават, кажуць, добра спяваю, калі даюць мажлівасць. На жаль, гэтых мажлівасцей, чым далей, тым менш.

У Вільнюсе клопаты аб маіх выступленнях кончыліся так, як і паўторнае падарожжа на Радзіму. Пішуць, што памог Мінск.

Канчаю пісаць, каб не забіраць Твайго часу, бо яго і так у Цябе не хапае. Дбай, дарагі Максіме, аб сваім здароўі і жыві доўга, бо Ты патрэбны Радзіме. Мой шлях, на жаль, набліжаецца да канца.

Моцна Цябе абдымаю і шлю сардэчныя прывітанні Табе з сям'ёй і супольным знаёмым.

Твой **М. Забэйда.**

**P. S.** Дзякуй за 6 і 7 № "Полымя", якое добра свеціць і грэе. Калі што патрабуеш з Прагі, напішы — прышлю з радасцю.

*Прага, 29,X II,1966.*

**"Зваліўся б камень з плеч,**
**Каб знаў, што можаш**
**Прыйсці ты ў дом**
**Не толькі ў дзень пагожы..."**

Дарагі Максіме!

Так хацеў бы і так трэба было б з Табой пагаварыць, але бачу, што Табе, сапраўды, "няма калі нават пісаць". Дык абмяжуюся самым неабходным.

Дзякуй Табе, дружа, за вершы, якія, як заўсёды, прачытаў з вялікім зацікаўленнем і з прыемнасцю. Вялікая страта, што не можаш прысвяціць больш часу творчай працы. № 12 "Полымя" атрымаў таксама. Радуюся, што часопіс расце, становіцца змястоўнейшым, цікавейшым і прыгажэйшым. Памагае чытачу-беларусу пазнаць сябе і знайсці сваё пачэснае месца "між народамі".

Наступае Новы год. Жадаю Табе, дарагі Максіме, і Тваім Танкістам многа поспехаў, многа шсаслівых хвілін, а, галоўнае, моцнага здароўя. Каб Ты не сагнуўся нават там, дзе "і вол сагнецца"!

Жадаю Твайму "Полымю" дайсці да кожнае беларускае хаты, якая так яго патрабуе!

Ну, а цяпер трохі аб сабе, мо Цябе гэта парадуе. Атрымаў я прэмію ад Ceskeho hudelniho fondu за выкананне песень чэскіх сучасных кампазытараў (за 1965—66 год). Апрача таго, у лістападзе г/г наспяваў на новую доўгаграючую пласцінку шэсць італьянскіх песень кампазытараў Bel canta. Калі плітка выйдзе, прышлю.

На гэтым, браце, і кончу, каб не пісаць аб галоўным, каб не забіраць Твайго часу.

Шчырыя прывітанні сябрам.

Моцна абдымаю.

Твой **Міхась.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 33.**

*ЗАМЕЖНАЯ ВАНДРОЎКА*

# ПА САЛЯНОЙ СЦЕЖЦЫ — У СЯРЭДНЯВЕЧЧА

Розныя бываюць падарожжы, часам зусім неспадзяваныя. Яшчэ за некалькі тыдняў да свайго сёлетняга падарожжа ўдзельнікі фальклорнага ансамбля "Шчодрыца" мінскага Дома настаўніка зусім не ведалі, што хутка яны апынуцца ў сапраўдным сярэднявеччы, дзе будуць старажытныя таямнічыя замкі, мураваныя вартаўнічыя вежы, крывыя, брукаваныя каменнем вулачкі ў цесных, за вялікімі ахоўнымі сценамі гарадках з абавязковымі фантанамі-абярэгамі ад чумы на невялічкіх, сціснутых пабудовамі, галоўных плошчах. Ды і не проста апынуцца, а стануць удзельнікамі цікавага трохдзённага свята, напэўна, менавіта такога, як і праводзіліся ў сярэднявеччы: з дамамі і кавалерамі, рыцарскімі турнірамі, раскацістым барабанным боем, карнавальнымі шэсцямі і цыркавымі прадстаўленнямі на плошчы. А яшчэ — убачаць сапраўднага пана бургамістра, які кіраваў горадам, пачуюць цудоўную, пяшчотную музыку тых часоў, зазірнуць у старадаўнюю аптэку, цырульню, лаўку ганчара, майстэрню каваля, піварню.







А ўсё гэта адбылося ў невялічкім гарадку Прахаціцэ, што прытуліўся да Шумаўскага горнага хрыбта ў Паўднёвай Чэхіі. "Шчодрыца" атрымала запрашэнне прыняць удзел у традыцыйным свяце "Залатой сцежкі", якое праводзіцца тут ужо не першы год. Улетку, калі навакоље расцвітае багаццем кветак, асабліва раскошнымі ружамі, якія амаль што пакрываюць паўсюды старажытныя будынкі, у горад з'язджаюцца госці. Звычайна гэта суседзі: баварцы і аўстрыйцы, якія жывуць зусім побач, праўда, праз межы. Справа ў тым, што межы раней праходзілі не тут, і менавіта ў сярэднявеччы суседзі разам з жыхарамі Прахаціцэ таксама мелі дачыненне да Залатой сцежкі. Бо сцежка гэтая — шлях, па якім мясцовае насельніцтва ездзіла па соль у Польшчу і іншыя солезадабываючыя мясціны.

Шлях гэты быў няблізкі, і рыхтаваліся да яго суседзі грунтоўна. Задоўга майстравалі спецыяльныя драўляныя бочачкі са шчыльнымі накрыўкамі, каб каштоўная па тых часах соль не высыпалася і не прамакала. Жанчыны шылі для падарожнікаў суконнае адзенне з круглымі шчыльнымі накідкамі ад холаду і дажджу, а мужчыны рабілі спецыяльныя ўмацаванні, каб ладна трымаліся драўляныя бочкі на іх невялічкіх каржакаватых конях. Аб конях клапаціліся асабліва, бо ад іх цягавітасці залежаў у многім поспех усёй справы. Рыжыя прысадзістыя коні з тых часоў разводзяцца ў гэтых мясцінах і да сённяшніх дзён карыстаюцца попытам у мясцовых сялян.

Гарадок Прахаціцэ якраз і быў пабудаваны на гэтым саляным шляху. Спачатку гэта было невялічкае пасяленне земляробаў, а потым, дзякуючы саланому шляху, моцна расквітнеў гандаль, узніклі і шырока распаўсюдзіліся рамёствы, непрыкметнае мястэчка хутка ператварылася ў багаты сярэдневяковы горад. У 1312 годзе, як сведчаць навукоўцы, было першае пісьмовае ўпамінанне аб горадзе, а ў 1323 годзе кароль Ян Люксембургскі афіцыйна пацвердзіў статус Прахаціцэ як горада.

Найвялікшы росквіт горада адбыўся ў XVII—XVIII стагоддзях. Пасля доўгіх і разбуральных гусіцкіх войнаў ён быў адбудаваны ў стылі Рэнесансу. Менавіта тады атрымаў завяршэнне архітэктурны выгляд цэнтра горада, было пабудавана шмат адміністрацыйных будынкаў і дамоў багатых гараджан. У 1601 годзе горад набыла каралеўская сям'я, і з 1609 года кароль Рудольф II аб'явіў Прахаціцэ каралеўскім горадам. Але, калі ў час шведскай вайны горад быў акупіраваны, каралеўская сям'я перасялілася ў Чэскі Крумаў. З тых часоў Прахаціцэ развіваўся ўжо не як адміністрацыйны, а як гандлёвы цэнтр рэгіёна. Гэтаму моцна садзейнічала і правядзенне ў тутэйшых мясцінах у XIX стагоддзі чыгункі.

XIX стагоддзе — час развіцця культуры і адукацыі. Тут адчыняюць дзверы муніцыпальныя школы, музей, з'яўляюцца бібліятэкі. Горад разрастаецца і паступова ўсё больш выходзіць за сярэдневяковыя мураваныя сцены.

Уся багатая гісторыя горада была ў мастацкіх формах перададзена падчас свята, і гэта было так красамоўна, так зразумела, што нікому не спатрэбіліся перакладчыкі. Ну а песня народная, музыка, танец і наогул ніякіх перакладчыкаў не патрабавалі. Гараджане, якія запоўнілі плошчу, дзе якраз перад старадаўняй ратушай і выступалі ўсе госці, вельмі шчыра прымалі і духавы аркестр з Аўстрыі, і танцавальны калектыў са Славакіі, і ансамбль барабаншчыкаў са Швейцарыі, і наш фальклорны калектыў. Наватадсутнасць мікрафонаў на другі дзень свята не парушыла агульны святочны настрой: не доўга думаючы, мы проста спусціліся са сцэны і пайшлі ў самую гушчыню народу. Кіраўнікі дэлегацыі — дырэктар Дома настаўніка Ала Качаткова і мастацкі кіраўнік Святлана Трышпіот, як потым нам расказвалі, вельмі хваляваліся, ці ўдалым будзе выступленне калектыву ў такіх незвычайных, несцэнічных умовах, але ўсё прайшло вельмі добра. Напэўна, якраз і дзякуючы такому блізкаму кантакту з гледачом, і тым моцным апладысментам, якіх публіка для нас не шкадавала.



Да позняй ночы доўжылася свята, якое завяршылася шыкоўным феерверкам, і толькі раптоўная моцная навальніца здолела закончыць гэтае прыгожае дзеянне. Усе гэтыя дні разам з гараджанамі і гасцямі быў староста горада пан Міраслаў Баяноўскі, які на час свята афіцыйна, у прысутнасці ўсёй грамады перадаў свае паўнамоцтвы сярэдневяковаму бургамістру. Той (а ролю гэтую выконваў артыст мясцовага тэатра), шыкоўны, апрануты ў аксаміт і пер'е, і вёў прадстаўленне, скіроўваў асноўныя дзеянні і падзеі, абвяшчаў указы, вырашаў пытанні і рабіў тэатральнае свята па-сапраўднаму жывым і зразумелым кожнаму — ад госця-іншаземца да самага маленькага мясцовага хлапчука. Дарэчы, дзеці, а іх тут было мноства, прымалі ва ўсіх святочных дзеяннях самы непасрэдны ўдзел. Асаблівае захапленне ў іх выклікалі рыцарскія баі і турніры, якія доўжыліся на плошчы кожны дзень па некалькі гадзін.

Наогул, свята гэтае кранула тым, што было нейкае вольнае, незаарганізаванае, амаль што сямейнае. І галоўнае, у кожнай яго падзеі, у кожнай хвіліне адчувалася такое здзіўляючае дачыненне сучасніка да гісторыі сваёй краіны, сваёй малой Радзімы, горада, такая пашана да ўнёне і сваім продкам, што выклікала сапраўдную павагу.

Дзякуючы гасціннасці гаспадароў, мы праехалі па наваколлі горада, наведалі прыгожыя курортныя мясціны Шумавы, багаты старадаўні горад Чэскі Крумаў, мясцовыя архітэктурныя і прыродныя помнікі. А на развітанне пан Баяноўскі і работнікі адміністрацыі горада папрасілі перадаць паклон Беларусі, дзе яны былі з сяброўскім візітам сёлета па вясне і дзе ім вельмі спадабалася. А мы падаравалі пану старасту пано, на якім з сонечнай саломкі рукамі беларускіх майстроў быў створаны імклівы парусннік, словамі Алы Качатковай пажадаўшы гасціннаму гораду і пану Баяноўскаму: "Вялікаму караблю — вялікага плавання". Бо не тое галоўнае, каб горад ці чалавек былі ў прамым сэнсе слова вялікімі, важна, каб рабілі яны добрыя і вялікія справы, як напрыклад, гэтае свята "Залатой сцежкі" — свята ўшанавання вялікай гісторыі чэшскага народа.

**Валянціна ТРАМБІЦКАЯ,**
**мастацкі кіраўнік фальклорнага ансамбля "Шчодрыца".**

**НА ЗДЫМКАХ: выступае ансамбль "Шчодрыца" на цэнтральнай плошчы горада Прахаціцэ; староста Прахаціцэ пан Міраслаў БАЯНОЎСКІ; іграе аркестр старадаўняй музыкі.**

## «ВЯРТАННЕ Ў ЮНАЦТВА»

Магілёўскі абласны цэнтр народнай творчасці выпусціў у свет зборнік песень і інструментальных твораў самадзейнага кампазітара Яўгена Маланкова. Назва кніжкі — "Вяртанне ў юнацтва". Днямі ў гасцёўні цэнтра адбылася яе прэзентацыя. Бралі ўдзел у гэтым прыемным мерапрыемстве сябры абласнога клуба самадзейных кампазітараў.

Яўген Маланкоў — пенсіянер. Больш за трыццаць гадоў адпрацаваў у Магілёўскім ліцэі музыкі і харэграфіі. Але і зараз ад творчых спраў не адыходзіць. Выкладае ў дзіцячай школе мастацтваў, што ў вёсцы Вейна.



**Клімавіцкі народны хор, якому спаўняецца 50 гадоў, яго мастацкі кіраўнік кампазітар Леанід Ячнеў па праву лічыць сваім. Ён не толькі кіруе хорам усе гэтыя гады, ён яго стварыў, збіраючы ўдзельнікаў па прадпрыемствах горада, пастаянна папаўняў і абнаўляў калектыў, падбіраў для яго рэпертуар. Дастаткова сказаць, што ўласна ім на вершы як сталічных, так і мясцовых аўтараў напісана каля ста песень. А такія з іх, як "Сад-вінаград", "Гарошына" і многія іншыя, спяваюцца сёння ў Беларусі і Расіі, Украіне і Казахстане, Польшчы і Германіі. Не дарэмна ж ганаровае званне "народны" хору прысвоена чвэрць стагоддзя назад і яго кіраўнік стаў заслужаным дзеячам культуры Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: выступае Клімавіцкі народны хор.**

**Фота Валерыя БЫСАВА, БелТА.**

*1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА*

# ВЯЛІКАМУ ПАЭТУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

12 жніўня ў Нацыянальнай бібліятэцы рэспублікі адкрылася выстава дакументальных фатаграфій з архіва Музея літаратуры імя А. Міцкевіча ў Варшаве і карцін Аляксандра Зубрыцкага (г. Мінск). Арганізавалі выставу Польскі інстытут у Мінску, Музей літаратуры імя А. Міцкевіча і Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

У Нацыянальнай бібліятэцы — гэта ўжо другая выстава, прысвечаная паэту. На першай была прадстаўлена літаратура аб Міцкевічу, яго кнігі, рэдкія прыжыццёвыя выданні. Так што гэтая выстава — працяг першай. Вандроўкі паэта па свеце, яго сябры, яго каханне — усё гэта на здымках і ілюстрацыях. Паэт-рамантык, вялікі пілігрым пражыў поўнае драматызму жыццё, што і адлюстроўвае выстава.

Цыкл жа карцін Аляксандра Зубрыцкага "Беларусь міцкевічаўская" створаны за апошні год. На іх — аб'екты, звязаныя з імем вялікага паэта. Дарэчы, тэхніка выканання незвычайная. Мастак выкарыстоўвае парашок з каляровага шкла, які прыклейвае да драўлянай асновы.

Як паведаміў кіраўнік цэнтра імя Ф. Скарыны Адам Мальдзіс, у верасні пройдзе навуковая канферэнцыя "Адам Міцкевіч і нацыянальная культура". Падчас яе плануецца адкрыць у Мінску бібліятэку імя Адама Міцкевіча, яна была створана пры Чырвоным касцёле яшчэ ў 1908 годзе, а потым у 1920-м вывезена і рассеяна па Польшчы. Улады Беластока перадалі для аднаўлення бібліятэкі 6 тысяч кніг, якія маглі быць у ёй.

Ужо выйшла кніга, падрыхтаваная цэнтрам імя Скарыны разам з Польскім інстытутам "Адам Міцкевіч і Беларусь".

Яшчэ павінна выйсці кніга "Ян Чачот, Ігнат Дамейка — сябры і паплечнікі Адама Міцкевіча". Дарэчы, на канферэнцыю прыедуць прамыя нашчадкі герояў гэтай кнігі.

Галоўнай жа падзеяй да 200-годдзя паэта стане выданне "Пана Тадэвуша" ў арыгінале, перакладзе на рускую і беларускую мовы. Пераклад на беларускую мову зрабіў Пятро Бітэль. Ён, як расказаў Адам Мальдзіс, пераклаў "Пана Тадэвуша" ў ГУЛАГу. Не меў чарніла, пісаў зялёнкай на шматках паперы ад мяшкоў з-пад цэменту. Ілюстрацыі да "Пана Тадэвуша" (іх у кнізе 37) належаць Васілю Шаранговічу. Частка з іх друкавалася ўжо ў 1985 годзе. А ў 1986-м мастак атрымаў за іх дыплом імя Ф. Скарыны на рэспубліканскім конкурсе "Мастацтва кнігі".

Выданне кнігі стала магчымым дзякуючы падтрымцы выдавецтва "Воскресенье" (Масква), Беларускага фонду культуры, Дзяржкамдруку (Беларусь).

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: у зале выставы; фарны касцёл у Навагрудку (з архіва Музея літаратуры імя А. Міцкевіча).**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.**





**МАЛАДАЯ МАМА**



**Давядзецца вучыцца завочна.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.**

**ВЕТРАЗІ... «ВЕТРАЗЯ»**

Некалькі гадоў запар з-за розных цяжкасцяў, якія існуюць сёння, у выдавецтве "Юнацтва" не выходзіў зборнік перакладной дзіцячай літаратуры "Ветразь". І вось прыемная навіна: толькі што з'явіўся чарговы яго выпуск, пазначаны 1998 годам. Праўда, ён розніцца ад папярэдніх, бо тэматычны і мае падзагаловак "У гасцях у казкі". Прадстаўлены ж у кніжцы як народныя, так і аўтарскія казкі, а геаграфія іх шырокая — Расія, Украіна, Казахстан, Малдавія, Германія, Данія, Чэхія...

*НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ*

# ГІСТОРЫЯ, АРХІТЭКТУРА, СПОРТ

Калекцыя беларускіх філатэлістаў папоўнілася новымі цікавымі выпускамі мастацкіх канвертаў, марак і спецгашэнняў, якія расказваюць аб гісторыі, архітэктуры, спорце.

Выпускам юбілейнага канверта адзначана 500-годдзе атрымання старажытным Полацкам магдэбургскага права.




На малюнку канверта мастак М. Купава намаляваў партрэт вялікага князя ВКЛ Аляксандра на фоне герба і будынкаў старажытнага горада. Гэта першы канверт беларускай пошты, на якім дадзена адлюстраванне князя ВКЛ.

Па ўказу цара Аляксандра I у 1810 годзе ў Бабруйску пачалося будаўніцтва крэпасці. За 10 гадоў было пабудавана 22 бастыёны. Крэпасць вытрымала 4-месячную асаду ў 1812 годзе. У 1825 годзе казематы крэпасці выкарыстоўваліся як турма. Тут утрымлівалі дзекабрыстаў. Многія гады ў крэпасці раскватароўваліся воінскія часці. У гады Вялікай Айчыннай у крэпасці фашыстамі быў створаны лагер смерці. Адзін з канвертаў серыі — архітэктура Беларусі XIX стагоддзя — прысвечаны Бабруйскай крэпасці. На малюнку канверта паказана гравюра XIX стагоддзя з адлюстраваннем аднаго з фортаў Бабруйскай крэпасці.

Другі канверт гэтай серыі расказвае аб помніку архітэктуры класіцызму — Жыліцкім палацы, пабудаваным у 30-я гады XIX стагоддзя архітэктарам К. Падчашынскім у вёсцы Жыліцы (Кіраўскі раён).

Споўнілася 225 гадоў паштоваму тракту Санкт-Пецярбург — Магілёў. Па просьбе магілёўскіх філатэлістаў гэты юбілей адзначаны поўным наборам паштовых сувеніраў. Выпушчаны канверт з адлюстраваннем паштовага дыліжанса, на раней выпушчанай паштовай марцы з адлюстраваннем магілёўскага касцёла кармелітаў была зроблена наддрукоўка "225 гадоў Санкт-Пецярбургска — Магілёўскаму паштоваму тракту", а на магілёўскім паштамце было арганізавана спецыяльнае гашэнне юбілейным штэмпелем.

У канцы мая ў сталіцы Латвіі прайшла філатэлістычная выстава-продаж беларускіх паштовых марак, арганізаваная РА "Белпошта". На ёй прымяняўся спецыяльны штэмпель для гашэння карэспандэнцыі з адлюстраваннем зубра і надпісам "БелаРусь. Riga'98".

Не забыты і філатэлісты — аматары спорту. Нядаўна ў Мінску прайшлі буйныя спартыўныя мерапрыемствы — чэмпіянат Еўропы па грэка-




рымскай барацьбе і чэмпіянат Еўропы па боксу. Абодва чэмпіянаты адзначаны выпускам мастацкіх канвертаў і памятнымі спецыяльнымі штэмпелямі.

**Леў КОЛАСАЎ.**



**Намеснік рэдактара**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1467.
Падпісана да друку 24. 08. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.